# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі: Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 46 СЬНЕЖАНЬ — 1976 — DECEMBER ГОД. 22**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ І ЎСІМ БАГАЛЮБНЫМ ПРАВАСЛАЎНЫМ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ Й НА ЧУЖЫНЕ.

**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!**

*... Да сваіх прыйшоў, і свае не прынялі Яго. А тым, каторыя прынялі Яго, вернікам у імя Ягонае, даў сілу дзяцьмі Божымі стацца. (Ян, 1, 11-12).*

**Дарагія і любыя Браты і Сёстры нашыя!**

Нараджэньне Госпада і Спаса нашага Ісуса Хрыста — найвялікшая падзея ў гісторыі сьвету. Праз Нараджэньне Хрыста адбылося Божае аднаўленьне роду людзкога. Пасьля спакусы і ўпадку Адама чалавек стаўся нявольнікам грэху. Для людзей ня было пасрэдніка, праз якога можна-б было мець лучнасьць з Богам. І вось, калі збылася поўня часу, Бог паслаў Абяцанага — Сына Свайго Адзінароднага („Бо Сын Чалавечы прыйшоў, каб зьберагчы загубленае (Мац. 18, 11). Гэтая падзея астаецца і астанецца жывой у сэрцах тых, хто верыць у Госпада і Збаўцу Ісуса Хрыста.

Хрыстос нарадзіўся ад Прачыстае Дзевы Марыі, у невялікім і бедным месьце Бэтлеэме, сярод бедных людзей і навет у часе падарожы. І першымі сталіся годнымі прывітаць Госпада пастушкі, якія пры сваёй прастоце й беднасьці валодалі скарбамі чыстага сумленьня прад Богам і людзьмі. Сваім Нараджэньнем Госпад Бог паказаў нам, дзе знаходзіцца веліч нашых скарбаў духовых: Ласка Божая, вера, добрая воля, пакора й любоў адзін да аднаго. Ён прынёс людзям мір, — прымірыць людзей з Богам (Эф. 2, 16).

Сьвяты Апостал кажа: „Слова целам сталася, дзеля таго, каб чалавек стаўся здольным успрыняць Боскасьць. Ён стаўся бедным, каб мы праз Ягоную беднасьць узбагаціліся. Ён зьнізіўся, каб нас падняць". Ён узлажыў грахі нашыя на плечы Свае, і прывёў нас да Айца Свайго Нябеснага, каб мы сталіся дзяцьмі Божымі.

Сваім Нараджэньнем Госпад наш Ісус Хрыстос прынёс на зямлю Сьвятло для усіх, каб яно заўсёды зьзяла і ніколі не зайходзіла. Сьвятло гэтае — пачатак перамогі жыцьця над сьмерцю, Сьвятла над цемраю, дабра над злом, праўды над ілжою, любові над нянавісьцяй.

Зь якою вялікаю радасьцю і любоўю сустракалі Сьвяты Вечар нашыя бацькі, дзяды і прадзеды. З пашанаю ставілася на покуці пад абразамі на сене куцьця, як памятка пра ясьлі для Народжанага Хрыста і пра дары для Яго. Калі-ж у часе вячэры зайходзіў у хату падарожны, то спатыкалі, якбы яго Бог паслаў, і саджалі яго на пачэсным месцы.

І які сум агартае, калі мы думкамі пераносімся цяпер на паняволеную Бацькаўшчыну, дзе навет ушчалі змаганьне з Богам, дзе замест дабра шырыцца зло, замест праўды — ілжа, замест любові — чалавеканянавісьць, замест Сьвятла — агульная цьма, і няма з жыцьця ўцехі людзям. Дык будзем узносіць малітвы да Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста за вызваленьне іх з тэй нядолі й цьмы, і самі ўзмацоўвацца малітвамі.

І ў гэтай веры й надзеі на вызбаўленьне сардэчна вітаем вас, Любыя Браты й Сёстры з вялікім і радасным Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага і з Новым 1977-ым Годам!

Няхай незямныя праменьні Сонца-Праўды асьвецяць і абагрэюць душы Вашыя да жыцьця ў Хрысьце і з Хрыстом, бо — „хто ў Хрысьце, той новае стварэньне" (2 Кар. 5-17) — каб мы, злучаныя ў Сьвятой Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве, і далей непахісна выконвалі Сьвятыя Хрыстовыя Запаветы ў малітвах да Збавіцеля, просячы заступніцтва Сьвяціцеляў нашых і Мучанікаў за веру.

Няхай Міласэрны Госпад наш Ісус Хрыстос асьвяціць Новы 1977 Год паўнатою шчасьця, якое выяўляецца ў аднаўленьні духа ў выкананьні Запаветаў Божых. Такога шчасьця мы Вам жадаем і просім Бога, каб Яго ўсёдзеючае дабраславенства дапамагала нам у нашай працы для дабра нашае Сьв. БАПЦркві і ўсяго нашага Беларускага Народу!

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — ЯГО ПРАСЛАЎЛЯЙЦЕ!
Каляды, лета Божага 1976.

З Ласкі Божае
**Пакорны ў Богу Архіепіскап Мікалай.**
**Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй**





*Высокадастойных Уладыкаў нашых*
*МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ*
*АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ*
*Пачэснае сьвятарства і ўвесь клер царкоўны*
*Усіх вернікаў БАПЦарквы,*
*Увесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне і на чужыне*
*ВІТАЕМ*
*З Нараджэньнем Хрыстовым*
*і з Новым 1977 Годам*

**Рада БАПЦарквы**

# ПАДРЫХТОЎКА ДА УСЯЛЕНСКАГА САБОРУ

Ад даўжэйшага часу вядуцца перамовы пра скліканьне Ўсяленскага Праваслаўнага Сабору. Паводля бюлетэню Канстантынопальскай Патрыярхіі „Епіскопсіс" і грэцкае газэты "The Hellenic Chronicle", Сабор мае адбыцца неўзабаве. Дэлегацыя Канстантынопальскае Патрыярхіі, начале з Мітрапалітам Мелітонам, старшынём Сьвяцейшага Сыноду, наведала і вяла перамовы з патрыярхамі Александрыйскім, Антыяхійскім, Ерусалімскім, Маскоўскім і Цэрквамі: Сэрбскай Румынскай, Баўгарскай, Грузінскай, Кіпрынскай, Грэцкай, Польскай, Чэхаславацкай і Фінляндзкай.

Выснавы гэтых перамоваў паказваюць аднагодснасьць Праваслаўя ў справе скліканьня Вялікага Ўсеправаслаўнага Сабору. Выказваліся пажаданьні, каб Сабор ня быў зацяжным, каб не адхіляўся ад вызначанага распарадку і не ўдаваўся ў пытаньні дагматычныя і не закранаў канонаў, аднак, каб Сабор знайшоў спосаб іх выясьніць і дастасаваць да сучасных патрэбаў; каб у ўсёй Праваслаўнай Царкве былі ўнармаваныя ўсякія магчымыя ўхілы й збачэньні і каб поступ да злучэньня ўсіх хрысьціян адбываўся ў праваслаўнай усеагульнай згодзе; ды каб Праваслаўе дало сьвету ўзноўленае сьвядоцтва любові і міру на сьвеце.

Успомненая газэта The Hellenic Chronicle ад 29 ліпеня 1976 г. больш канкрэтна выясьняе праграму Сабору, зазначаючы, што на Саборы будзе абгаворвацца і пытаньне сьвяткаваньня Вялікадня разам з заходнімі цэрквамі ў адну з нядзеляў месяца красавіка.

## НОВАЕ ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ

У юрысдыкцыю БАПЦарквы прыняты а. Грыгоры Кістнэр, які прызначаны Уладыкам Мітрапалітам Андрэем да Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрк.

А. Грыгоры прыступіў да пастырскай дзейнасьці ў Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ад кастрычніка 1976 г.

## ЗВАРОТ

Кіраўніцтва Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы жадае выдаць кнігу дакумэнтаў аб адроджанай БАПЦ. У сувязі з гэтым мы зварачаемся з просьбай да ўсіх нашых суродзічаў, хто мае такія дакумэнты або фотаздымкі, перасласць у Кансысторыю на адрас прат. Васіля Кендыша.
Very Rev. Vasil Kendysh, 73 Narragansett St. Springfield, Mass. 01107.

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

### КАНСЫСТОРЫЯ

### ЗАКЛІК

**да вернікаў і ахвярадаўцаў БАПЦарквы.**

**Дарагія браты й сёстры!**

Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы штогоду зварочваецца да ўсіх вернікаў Беларусаў у вольным сьвеце з просьбай ахвяр на патрэбы нашае Царквы, якія вымагаюць паважных і сталых выдаткаў.

З Ласкі Божае й ахвярнасьці нашых парафіянаў мы асягнулі пэўныя посьпехі ў разбудове нашае Царквы; і яны маглі-б быць лепшымі, каб усе суродзічы пачуваліся да нацыянальнага абавязку сталае дапамогі.

Царква — установа ў Імя Божае. Яна — найлепшая духовая лучнасьць між людзьмі, у любові й пашане адзін аднаго. Тымбалей важная гэтая лучнасьць для нас раскіданых па сьвеце. Для ўтрыманьня-ж Царквы вымагаецца й лучнасьць матарыяльная ў форме ўспамогі матарыяльнай.

Пара было-б уздабыцца нам на сталую сядзібу Мітраполіі, дзе была-б рэзыдэнцыя Мітрапаліта, Кансысторыя, і пры ёй царкоўныя дапаможныя ўладжаньні, як архіў, бібліятэка ды інш. А на ўсё гэта вымагаюцца сталыя й паважныя выдаткі.

У гэтай неабходнасьці Кансысторыя БАПЦарквы заклікае ўсіх вернікаў сваіх, каб кажны, і ўсе, у меру сваіх сіл, шчодрымі ахвярамі спрычыніліся да ўтрыманьня й разбудовы свае незалежнае Царквы.

Ахвяры просім прысылаць на адрас Кансысторыі ў ЗША, а на іншых кантынэнтах — на адрас Епархіяльнага Кіраўніцтва.

Верасень, Лета Божага 1976.

Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
CONSISTORY
Highland Park, N. J. 08904.

**За Кансысторыю БАПЦ:**

**М. Войтэнка**
Скарбнік

**Прат. Васіль Кендыш**







**А. Каханоўскі**

## 25 ГОД ПАРАФІІ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ У КЛІЎЛЭНДЗЕ

Гісторыя Парафіі — сёньня ўжо адзін з эпізодаў гісторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і гісторыі сучаснае беларускае эміграцыі. У кароткім нарысе*) немажліва ахапіць поўнасьцю ўсіх фактаў зь ейнага жыцьця за 25 год. Таму паспрабуем, на аснове свае памяці й дакумантаў парафіяльнага архіву, адтварыць хоць-бы агульны абраз важнейшых падзеяў з 25-цігадовае гісторыі.

. . . 1951 год. Позьняя восень, цёплая, сонечная, калі пачалася арганізацыя парафіі.

Першым крокам да заснаваньня яе была візыта архіеп. Васіля ў Кліўлэнд 14-га кастрычніка. У той дзень быў паклікаsuccessfully часовы Царкоўны Камітэт у складзе: Я. Кузьміцкі — старшыня, М. Белямук — сакратар, М. Страпко — скарбнік, С. Яраховіч, В. Шыкалюк і Т. Ламака — сябры.

Праз 2 месяцы пасьля таго, 16-га сьнежаня, агульны сход беларусаў Кліўлэнду пастанавіў выарэнтаваць пад часовую царкву ў Pilgrim Congregational Church на 2592 West 14th Street вялікую салю з асобным уваходам і пляцам для паркаваньня аўтаў. Было вырашана таксама ўкласці сьпіс парафіянаў, прыступіць да абсталяваньня царквы, а на рэнту салі й іншыя выдаткі ўвесьці царкоўны падатак і платы за трэбы. У выпадку неабходнасьцяў — зьбіраць ахвяры на падпісныя лісты.

Адразу па сходзе царкоўная саля была вырэнтавана, а ад панядзелка ў ёй закіпела праца. Трэба была зрабіць салю, іканастас, прастол, ахвярнік, аналоі й г. д. Аляксандар Лук'янчык прывёз трак дошак і іншага будаўнічага матар'ялу. Із сваімі сакерамі, піламі, малаткамі прыйшлі А. Кананчук, М. Страпко, А. Чэрнік, М. Пэнда, М. Белямук . . . Жанчыны — К. Каляда, Т. Кананчук, Н. Страпко — дасталі абразы, ручнікі, кветкі, узяліся за ўпрыгожаньне царкоўнае салі. Старшыня Камітэту Я. Кузьміцкі ўкамплектаваў царкоўны хор і пачаў рабіць сьпеўкі.

За тыдзень ужо быў памаляваны іканастас. І ў нядзелю 23-га сьнежаня а. Яўхім Якіменка, прызначаны Уладыкай Васілём за настаяцеля парафіі, разам з пратадыяканам Калістратам Савіцкім, адслужылі абедніцу. У наступную нядзелю, 30-га сьнежаня 1951 г. адслужылі поўную літургію, запачаткаваўшы рэгулярныя Багаслужбы.

Так паўстала ў Кліўлэндзе Парафія Жыровіцкае Божае Маці, 2-ая пасьля Нью Ёрку парафія Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў ЗША. І так пачаўся 1-шы пэрыяд ейнае гісторыі, пэрыяд на 14-ай вуліцы, які цягнуўся да канца 1957 г.

У тым пэрыядзе парафія мела свайго настаяцеля, пратадыякана, рэгента (ад 1953 г. — камп. М. Куліковіча, які паставіў хор на высокім прафэсійным узроўні). Заставалася неразьвязанай праблема свайго ўласнага царкоўнага будынку, што й сталася ў далейшым галоўным клопатам парафіянаў.

18-га ліпеня 1954 г. Парафіяльная Рада ўпяршыню выказалася за набыцьцё ці пабудову ўласнае царквы, і паставіла гэтае пытаньне на

*) Нарыс — скарочаны варыянт рэфэрату, чытанага аўтарам на ўрачыстым абедзе з нагоды 25-цігодзьдзя Парафіі 24. X. 1976 г.

абмеркаваньне агульнага сходу парафіі. Два гады пасьля таго йшлі дыскусіі, аглядаліся колькі царкоўных будынкаў, каторыя прадаваліся на заходнім баку горада.

Аднак рэальна гэтай справай занялася Парафіяльна Рада, выбраная на 1957 г. (старшыня — А. Кананчук) ужо пры новым настаяцелю прат. Міколу Макарэвічу. 3-га сакавіка парафіяльны сход выбраў камісію (Ю. Каляда, Аляксандар Лук'янчык, А. Стрэчань), якой даручыў шукаць пляц з будынкам. Праз паўгода пошукаў, 29-га верасьня сход згадзіўся купіць за 22.500 дал. сёньняшні пляц з домам на 3517 Вэст 25 Стрыт. За месяц сярод парафіянаў было сабрана 11.750 дал. Нестаючыя 11.000 дал. былі выпазычаныя ў банку.

5-га сьнежаня Парафіяльная Рада падпісала паперы на купна, а 19-га пляц з домам ужо былі аформленыя на ўласнасьць парафіі.

**2-гі пэрыяд (1958-1960 гг.)**

(У сваім парафіяльным доме)

Пачаўся 2-гі, будаўнічы, пэрыяд гісторыі парафіі, які цягнуўся каля 3-ох год, да верасьня 1960 г.

Багаслужбы ў гэтым пэрыядзе, пачынаючы ад 26-га студзеня 1958 г., адбываліся ў часовай царкве, уладжанай у парафіяльным доме, а парафіяне пад кіраўніцтвам сваe Рады (тут трэба падкрэсьліць ролю старшыні Рады ўсе гэтыя 3 гады М. Гумена й скарбніка М. Ягаўдзіка) узяліся за будову царквы.

20-га красавіка 1958 г. агульны сход зацьвердзіў архітэктурны праект, пасьля чаго яшчэ доўга думалі, рыхтаваліся. Нарэшце, з надыходам 1959 г. вырашылі: пара! трэба брацца ізноў за збор грошай. Пачатак гэтаму паклаў банкет, зарганізаваны Парафіяльнай Радаю 9-га сакавіка ў Hollenden Hotel. На банкеце, на які былі запрошаныя архіеп. Васіль, мэр Кліўлэнду й іншыя госьці, было задэкляравана на будову царквы каля 5.000 дал. Для збору грошай была выбраная камісія.

Усяго было сабрана 19.785 дал. 30.000 дал. было выпазычана ў банку Cleveland Trust, 2.400 — у сваіх парафіянаў. Рэшту зьбіралі на розных парафіяльных імпрэзах — вечарынах, пікніках, абедах, лятарэі й г. д.

4-га ліпеня, на сьвята Незалежнасьці ЗША, настаяцель парафіі прат. М. Макарэвіч пасьвяціў кутавы камень пад фундамэнт царквы.

Будова пачалася.

Быў запрошаны архітэктар А. Назарэц. Для большае спраўнасьці ў працы ў дапамогу Парафіяльнай Радзе быў пакліканы Будаўнічы Камітэт — інж. К. Калоша, А. Стрэчань і А. Семянчук.

Парафіяльная каса аплачвала галоўна кантрактара, будаўнічыя матар'ялы й некаторыя віды спэцыяльных працаў. Бальшыню-ж працы парафіяне рабілі самі беларускай талакою. Асабісты прыклад у гэтым паказалі старшыня Рады М. Гумен, сябры Будаўнічага Камітэту інж. К. Калоша й А. Стрэчань.

Пабудова царквы без нутранога абсталяваньня ў ёй (без іканастасу, прытвору, царкоўнай салі, кухні й г. д.) каштавала 88.000 дал. пры сваёй дармовай працы.

**3-ці пэрыяд (ад канца 1960 г.)**

(У сваёй царкве)

3-га верасьня 1960 г. архіеп. Васіль пры зьезьдзе беларусаў зь іншых беларускіх асяродкаў ЗША й Канады ўрачыста высьвяціў царкву.

У працягу наступных колькі год яшчэ йшлі — дабудова царквы ў сярэдзіне, набыцьцё царкоўных рэчаў, рознага гаспадарчага інвэнтару



й мэблі, на што былі патрэбныя новыя фінансавыя сродкі, якія зьбіраліся з царкоўнага падатку парафіянаў, прыбыткаў ад парафіяльных імпрэзаў і шматлікіх ахвяраў парафіянаў на падпісныя лісты й індывідуальна. Усе імёны ахвярадаўцаў упісаныя ў царкоўныя акты. Іх было шмат. Але імёны найбольшых зь іх, ахвярадаўцаў-дабрадзеяў, мусяць быць тут названыя. Гэта:

Ян Скабелін, які падараваў царкве выпісаныя з Грэцыі грабніцу з плашчаніцаю, напрастольны й запрастольны крыжы, дарахоўніцу, абклад эвангельля, рыпіды, поўны камплект рэчаў для сьвятых таінстваў эўхарыстыі на агульную суму 12.567 дал.;

Lukjan Metal Product, Inc., галоўны ўласьнік якое Анатоль Лук'янчык — 1.200 дал. на росьпіс іканастасу, 1.300 дал. на росьпіс алтара і 300 дал. для набыцьця шэраў ад Беларускага Грамадзкага асяродку „Полацак", усяго 2.800 дал.;

З арганізацыяў —

Беларускае Жаночае Згуртаваньне — 2.600 дал. на харугвы, абразы й іншыя рэчы;

Кліўлэндзкі аддзел Згуртаваньня Беларускае Моладзі, які выпісаў з Чэхаславаччыны за 1.160 дал. панікадзіла.

30-га верасьня 1969 г. была поўнасьцю сплачаная грашовая пазычка ў банку 30.000 дал. На парафіяльным абедзе ў Дзень Удзячнасьці (Thanksgiving Day), 23-га лістапада, пазычковы акт (Deed) на вачох усіх быў спалены.

**Парафіяне**

Склад парафіі за 25 год няспынна мяняўся: адны паміралі ці выяжджалі ў іншыя штаты ЗША, другія нараджаліся ці прыяжджалі зь іншых штатаў і краёў (Ангельшчыны, Бэльгіі, Бразыліі, Францыі).

Пры заснаваньні парафіі ў 1951 г. ў ёй было 93 асобы разам зь дзецьмі. Сёньня — 182, ці 54 сям'і й 24 адзіночкі, зь якіх працуючых — 70. Рэшта — 23 старэйшыя жанчыны, 24 пэнсіянэры, 15 студэнтаў унівэрсытэтаў і каледжаў і дзеці.

З працуючых: бальшыня (44) — фабрычныя работнікі, 7 — канцылярыйных працаўнікоў, 4 — тэхнікаў і мэханікаў, 4 — адміністрацыйна-кіруючых працаўнікоў у розных фірмах, 4 — настаўнікаў амэрыканскіх школ, 3 — інжынэраў і 4 — уласьнікаў нэвялікіх прадпрыемстваў, найбольшае зь якіх Lukjan Metal Product, Inc. (завод з к. 30 работнікамі).

У працягу 25 год 21 парафіянін скончылі амэрыканскія ўнівэрсытэты й працуюць у сваёй прафэсіі (часткава паза Кліўлэндам).

Усе парафіяне, апрача настаяцеля й рэгента, свае функцыі ў прычце, Парафіяльнай Радзе, адміністрацыі парафіяльнага дому й пляцу выконваюць ахвярна, бяз платы.

**Прычт**

Цяпер у парафіі трэці настаяцель. 1-ым настаяцелем, у 1951-56 гг. (і часова ў кан. 1960 — пач. 1961 гг.), быў а. Яўхім Якіменка, рукапалажаны на сьвятара архіеп. Васілём 4-га лістапада 1951 г. у Чыкага. 2-ім прат. Мікола Макарэвіч (1957-60 гг.), сьвятар зь Беларусі. Ад 2-га лютага 1961 г., ужо ў працягу каля 16 год, настаяцелем парафіі ёсьць духовы вэтэран парафіі, сьпярша прат. Аляксандар Крыт, які прыехаў у Кліўлэнд з Ангельшчыны, 15-га лютага 1968 г. хіратанізаваны ў Аўстраліі на Епіскапа Андрэя, а 27-га травеня 1972 г. на Царкоўным Саборы ў Нью-Ёрку выбраны на Мітрапаліта, Першагэрарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Вялікую ролю ў жыцьці парафіі меў царкоўны хор, якім кіравалі — Якуб Кузьміцкі (1951-52 гг.), камп. Мікола Куліковіч (1953-55 гг.), Кастусь Кіслы (1956-75 гг.) і ад 1976 г. — Уладзімер Літвінка.

Трэба згадаць, што ў ім сьпявалі: 6 асобаў з сям'і Лук'янчыкаў (бацька Аляксандар, сыны — Анатоль і Сяргей, дочкі — Марыя й Галіна, нявестка Фаня), 5 асобаў з сям'і Шыкалюкоў (Антося, Роза, Міхась, Янка й Кастусь), уся сям'я Радзюкоў (бацькі Вацлаў і Гэлена, дочкі Анюта й Юля), салістка харкаўскай опэры Надзея Градэ.

Цяпер у хоры 22 асобы. 6 з іх (сёньняшні рэгэнт У. Літвінка, І. Сьмірнова, Г. Радзюк, У. Дунец, І. Урэціч і М. Патапенка) сьпяваюць 25 год, ад дня заснаваньня хору. 13 (Анатоль Лук'янчык, К. Калоша, А. Васілеўскі, Н. Кэртэс, В. Сьпічонак, В. Лукашэвіч, Л. Мітраховіч, В. Ягаўдзік, Т. Кананчук, Н. Страпко, М. Гумен, К. Валюкевіч і В. Мельнік) сьпяваюць 15-20 год і болей.

Хор ведамы й паза сваёй парафіяй: ня раз ён быў запрашаны й сьпяваў у іншых парафіях — у Таронта (Канада), Ракфардзе (Ільліной), Дэтройце й г. д.

### Парафіяльная Рада

Галоўным кіраўнічым органам парафіі ў справах адміністрацыйна-гаспадарчых ёсьць Парафіяльная Рада.

Да першае зьмены царкоўнага статуту ў 1956 г. старшынёю яе быў настаяцель а. Я. Якіменка. Ад 1957 г., калі статут функцыю адміністрацыйна-гаспадарчага кіраўніцтва аддзяліў ад функцыі кіраўніцтва духоўнага, агульны сход парафіі на кожную гадавую кадэнцыю выбірае Раду з сьвецкім старшынёю. Першым такім старшынёю на 1957 г., як ужо было зазначана, быў Антон Кананчук. Наступна старшынямі былі: Мікола Гумен (1958-60 гг.), Антон Шастак (1961-62 гг.), Сяргей Карніловіч (1963-64 гг.), Вацлаў Радзюк (1965-67 гг.), Янка Яраховіч (1968-69 гг.), інж. Янка Бруцкі (1970-71 гг.) і інж. Кастусь Калоша (1972-76 гг.).

### Фінансавыя справы

Гадавы абарот касы самы нізкі быў у 1954 г. — 1.663 дал. 96 цэн. у прыбытках і 1.582 дал. 22 цэн. у выдатках; самы высокі — 30.269 дал. 23 цэн. у выдатках у 1959 г. (у кадэнцыі 1. 4. 1959 — 28. 2. 1960). Цяпер у сярэднім — 12.000 дал. у год у прыбытках і 9.000 у выдатках.

Стан парафіяльнае касы на 17-га кастрычніка 1976 г. — 23.243 дал. 24 цэн. А ўся маёмасьць парафіі — пляц, царква, парафіяльны дом і інвэнтар — ацэньваецца на 200.000 дал.

Пры такой колькасна невялікай парафіі ўсяго гэтага магчыма было дасягнуць адно вялікай ахвярнасьцю парафіянаў — грашовай і ў працы. Тут можна хіба яшчэ дадаць, што парафіяне жыва адклікаюцца на патрэбы й іншых беларускіх парафіяў і асяродкаў: за апошнія колькі год яны сабралі й выслалі ў Дэтройт, Дораты (Ню Джэрзі), Таронта й у Італію грашовыя ахвяры на суму 2.563 дал.

***

Жыцьцё парафіі цячэ ціхім нармальным поступам, бяз лішняга шуму. Цячэ, як наш спакойны Нёман. Толькі зрэдку, калі наляцяць злыя вятры, узбураць яго хвалямі, ускаламуцяць чыстую ваду, ён папеніцца, пашуміць; а, калі муць асядзе на дно, зноў пацячэ ціха. Але ў гэтай ціхай звонку плыні штодзённага парафіяльнага жыцьця — багатае й зьмястоўнае жыцьцё, духоўнае й царкоўна-грамадзкае, з сваімі патрэбамі, праблемамі й радасьцямі.



У першую чаргу — гэта жыцьцё духоўнае, дзеля чаго й існуе Царква. Рэгулярныя Багаслужбы. Трэбы. Навука Закону Божага, галоўна ў нядзельных і сьвяточных казаньнях настаяцеля.

А ўжо тады — шматбаковае царкоўна-грамадзкае жыцьцё. Згадаем тут некаторыя факты зь яго.

### Пастырска-рэгенцкія курсы

У 1961-63 гг. пры парафіі былі пастырска-рэгенцкія курсы, на якіх настаяцель, тады прат. Аляксандар, і рэгент хору К. Кіслы выкладалі Закон Божы, літургіку, царкоўна-славянскую мову й сьпевы. Курсы скончылі 4 студэнты, адзін зь якіх, сёньняшні пратадыякан парафіі а. Міхась Страпко, 21-га травеня 1967 г. быў рукапаложаны архіеп. Васілём у дыяканы.

### Выдавецтва

З выдавецкай дзейнасьці парафіі назавем выданьні:

1) парафіяльнага „Бюлетэню" ў 1957-68 гг. (выйшла ратататарам 17 нумароў);

2) 6 кніжак нотаў на — Вялікдзень, 1960 г.; Паніхіду й паховіны, 1963 г.; Малебен (для розных нагодаў), 1964 г.; Вялікі Чацьвер, 1966 г.; Вербніцу, 1966 г. і Шлюб, 1968 г. —
уложаныя рэгентам К. Кіслым, а выдадзеныя ў друкарні Кліўлэндзкага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі (друкар — Уладзімер Дунец) у 50-100 экз. як для свайго парафіяльнага хору, так і хораў іншых парафіяў нашае Царквы;

3) сямейнай „Памінальнай кніжкі" з малітвамі, друкам у 1961 г.;

4) гісторыі Новага Запавету кандыдата тэалёгіі С. Паўловіча, упяршыню выдадзенай у 1936 г. у Варшаве, а перавыдадзенай фотадрукам у Кліўлэндзе коштам а. Аляксандра ў 1964 г.; і

5) штагадовых Калядных і Вялікодных павіншавальных картак зь беларускім тэкстам.

### Сыботняя школа

У 1962-71 гг. пры парафіі існавала дадатковая Сыботняя школа для дзяцей, у якой настаяцель парафіі, І. і А. Каханоўскія, А. Яцэвіч, К. Грынкевіч, К. Кіслы, інж. К. Калоша, інж. Ю. Станкевіч і іншыя настаўнікі выкладалі Закон Божы, беларускую мову, гісторыю й геаграфію Беларусі, беларускія сьпевы й танцы.

У 1963-64 навучальным годзе ў школе было 4 клясы з 46 вучнямі. Кожная кляса штосыботы мела 4 лекцыі. Дзеля нястачы школьных падручнікаў, для 3 і 4 клясаў была выдадзеная (1964 г.) свая чытанка „Родны Край" — кампіляцыйная фотаадбітка з школьных старых выданьняў.

Пры школе працавалі розныя дзіцячыя гурткі — школьны хор (кіраўнік — К. Кіслы), гурток беларускіх народных танцаў (кіраўнікі — М. Лук'янчык і У. Дунец), драматычны (кіраўнік — І. Сьмірнова), адзін час — аркестра. З удзелам гурткоў школа ладзіла свае імпрэзы. Адзначым для прыкладу:

11-га студзеня 1964 г. для ўсяе парафіі — Калядную ялінку; у праграме была пастаноўка п'есы настаўніка школы Алеся Змагара „Каляды", дэклямацыі, танцы, выступ хору;

25-га сакавіка 1964 г. — сваю школьную акадэмію ў дзень угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі; вучні самі вялі акадэмію, чыталі рэфэрат і выступалі з мастацкай праграмаю.

### Сталыя імпрэзы

У грамадзка-культурным жыцьці парафіі з цягам гадоў выкрышталізаваліся сталыя парафіяльныя імпрэзы году — Колядная ялінка, банкет для царкоўнага хору, парафіяльнае сьвята на дзень Жыровіцкае Божае Маці, Дзень Маці, Дзень Удзячнасьці. Апрача іх, вечарыны, пікнікі, абеды з розных нагодаў. Часам — супольнае Вялікоднае разгавеньне, Купальле. Радзей — рэфэраты Уладыкі Андрэя й іншых парафіянаў на тэмы царкоўнай гісторыі, гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы, беларускіх звычаяў на Коляды, Дажынкі й іншыя царкоўныя й народныя сьвяты.

На ўсіх гэтых імпрэзах большыя ці меншыя праграмы мастацкай самадзейнасьці з удзелам папулярнай сьпявачкі парафіі Іры Сьмірновай і акардыяністага У. Літвінкі.

### Парафія ў жыцьці гораду

Парафія не вяла ізаляваны абраз жыцьця ў Кліўлэндзе. Яна мела й мае цяпер сталыя сувязі й супрацоўніцтва ня толькі з мясцовымі беларускімі арганізацыямі, але й з іншымі цэрквамі гораду й культурнымі ды грамадзкімі інстытуцыямі.

Ад 1955 г., ад пачатку заснаваньня ў Кліўлэндзе Рады Праваслаўных Цэркваў, парафія як раўнапраўны сябра ўваходзіць у гэтую Раду, разам з праваслаўнымі парафіямі юрысдыкцыяў іншых народаў — грэкаў, румынаў, украінцаў, сэрбаў, расейцаў, сырыйцаў і г. д. Яна мела там сваіх сталых прадстаўнікоў — інж. К. Калоша, С. Карніловіч, Я. Раковіч і П. Мельнік. Колькі разоў канфэрэнцыі Рады адбываліся ў беларускай царкоўнай салі.

Зь іншых праваслаўных цэркваў гораду парафія найбліжэй стаіць да украінскіх парафіяў Сьв. Уладзімера й Сьв. Тройцы і сэрбскае Сьв. Савы. Блізасьць гэтая выяўляецца ў часьцейшых кантактах настаяцеляў, узаемным удзеле ў парафіяльных сьвятах, а найбольш у супольных (па чарзе ў кожнай царкве) Багаслужбах на Нядзелю Праваслаўя. Беларускі хор у гэтых выпадках колькі разоў сьпяваў у цэрквах — украінскай і сэрбскай.

Балетны гурток Сыботняе школы часта выступаў з беларускімі народнымі танцамі на міжнацыянальных канцэртах і фэстывалях гораду; а сябры драматычнага гуртка чыталі вершы беларускіх паэтаў на вечары славянскіх літаратураў у Western Reserve University.

7-га студзеня 1969 г. царкоўны хор у ролі калядоўшчыкаў сьпяваў беларускія калядкі ў Сіты Гол. Вялікі гонар быў аказаны парафіі, калі на агульнагарадзкі мітынг паняволеных народаў на Public Square 18-га ліпеня 1968 г. прачытаць малітву быў запрошаны настаяцель парафіі Уладыка Андрэй.

Урэшце, жыцьцё парафіі (рэпартажы карэспандэнтаў, з фота царквы) мае адбітак у англамоўнай гарадзкой прэсе, найчасьцей у The Cleveland Press.

Мінула 25 год.

За гэты час пройдзена дарога ад невялікай парафіі ў чужым царкоўным будынку да ўласнае, хоць і невялікае, але прыгожае Мітрапалічае Катэдры, якая сталася важнейшым рэлігійным і нацыянальна-грамадзкім асяродкам гуртаваньня беларусаў у Кліўлэндзе.

Што чакае парафію заўтра?



# У 685-Я УГОДКІ ПРЫЗНАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ НАВАГРАДЗКАЙ МІТРАПОЛІІ

(З дакладу на юбілейным сьвяце Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе, 24. 10. 1976 г.)

Няма дакладных гістарычных вестак пра пачаткі праваслаўнае веры сярод нашага народу. Але ведама, што ўжо ў 992 годзе была епіскапская катэдра ў Полацку, якою кіраваў Епіскап Міна; у 1005 годзе была ўжо епіскапская катэдра ў Тураве, пад кіравецтвам Епіскапа Тамаша. А пазьней, у XII сталецьці была заснавана асобная Епархія Смаленская, дзе быў Епіскап вучоны грэк.

У XII ст. арганізавалася Вялікае Княства Літоўскае, якое сталася адным з наймацнейшых гаспадарстваў на ўсходзе Эўропы. І пачатак яго стаўся ў самым цэнтры расьсяленьня нашага народу. З гэтага выглядае, што і арганізатарамі яго былі нашыя продкі. І ўсе тры памянёныя епархіі ўвайшлі ў склад новага гаспадарства.

Вялікія князі Літоўскага Княства, у складзе якога пераважала жыхарства Беларускае, імкнуліся стварыць у межах свае дзяржавы самастойную Праваслаўную Мітраполію, высока ставячы значэньне Незалежнасьці праваслаўнае Царквы, ролю Мітрапаліта, і Мітрапалічую Катэдру. Таму і прыкладалі ўсе стараньні для рэалізацыі гэтае ідэі, і рабілі захады, каб Канстантынопальскі Патрыярх і Бізантыйскі Імпэратар зьвярнулі больш увагі на праваслаўных у межах Вялікага Княства Літоўскага, а таксама каб прысьпешылі зацьверджаньне Мітраполіі. Гэтыя захады і звароты князёў і духавенства былі прыхільна прынятыя Патрыярхам, і ў 1291 годзе Мітраполія ў Наваградку была зацьверджана. Першым Мітрапалітам быў пастаўлены грэк Феафіл.

---

Прадказаць гэта і прадбачыць немажліва. Можна толькі верыць у лепшае, што яна й надалей будзе жыць і разьвівацца.

Зарука гэтаму — найперш настаяцель, Мітрапаліт Андрэй. Не зважаючы на свой век і стан здароўя, на абавязкі першага гэрарха Царквы, ён знаходзіць сілы й час на духоўнае акармленьне парафіі, на кантакты з духоўнікамі іншых цэркваў у Кліўлэндзе, на адведзіны хворых парафіянаў у шпіталях і шматлікія іншыя справы.

Зарука гэтаму — і самі парафіяне. Хоць паасобныя сябры гэтай жывой і дружнай сям'і з рознымі паглядамі, характарамі, з розным падыходам да справы, што выклікае часам (як і ў кожнай сям'і) дробныя непаразуменьні, але для агульнага дабра парафіі заўсёды верх бярэ дабразычлівасьць, разважнасьць, шчодрасьць. І усялякія перашкоды перамагаюцца.

Я ўжо прыраўнаў жыцьцё парафіі да нашага беларускага Нёману. Няхай-жа гэты Нёман нясе й далей сваю чыстую Йарданскую ваду ў мора гісторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

За гэта сьветчаць наступныя дакументы: 1. Каталёг дакумантаў Канстантынопальскага Патрыярха за часоў Імпэратара Андроніка Старога Палеалога, які быў Імпэратарам ад 1282 да 1320 г., у якім выразна зазначана, што ў тым часе ў Вялікім Княстве Літоўскім была выдзелена асобная мітраполія з Катэдрай у Наваградку, і 2. гістарычныя запісы ў патрыяршых актах сьветчаць, што ў 1329 годзе на Сынодзе ў Канстантынопалі браў чынны ўдзел Літоўскі Мітрапаліт Феафіл.

Зацьверджаньне Наваградзкай Мітраполіі — вялікая падзея нашага народу. Яе ніяк ня могуць абыйсьці моўчкі, або хоць зацьміць нашыя суседзі, як усходнія, так і заходнія. І гэткія гісторыкі як: Мітрапаліт Макары, Галубінскі, праф. Карташоў, Стрыйкоўскі, Хадыцкі, Тальбэрт, Барсаў, Салаўёў і іншыя, усёж, ня могуць амінуць гэтае важнае падзеі.

Мітрапаліт Феафіл памёр у 1329 ці ў 1330 годзе. Пасьля яго на некаторы час Канстантынопальскі Патрыярх стрымаўся з высьвячэньнем Мітрапаліта на Наваградзкую Мітраполію. Як зазначае Вацлаў Ластоўскі ў свёй „Гісторыі Крыўскай Кнігі", прычынаю невысьвячэньня Мітрапаліта было — упорыстае дамаганьне маскоўцаў ад Канстантынопаля зачыніць Наваградзкую Мітраполію, але князі і грамадзтва вялі змаганьне за сваю незалежнасьць і праводзілі гэта досыць рачова. Яны жадалі мець Мітрапаліта ў княстве, які-б паходзіў з серадовішча свайго народу. Таму Вялікі князь Альгерд у 1354 г. паслаў у Канстантынопаль дзеля пастаўленьня на Мітрапаліта сваяка свае жонкі, Віцебскае князёўны Марыі, — Рамана, якога Патрыярх на Мітрапаліта зацьвердзіў. А пасьля сьмерці Рамана Мітрапалітам быў пастаўлены Кіпрыян.

Вялікі князь Вітаўт пасьля сьмерці Рамана паслаў да Патрыярха на пасьвячэньне Грыгора Цамбляка, якога Патрыярх, з тых ці іншых меркаваньняў, не зацьвердзіў. А таму Вітаўт за згодаю Епіскапаў Вялікага Княства ў 1414 г. склікаў Сабор у Наваградку, на якім Грыгоры Мітрапалітам быў пастаўлены і прызнаны.

Ведамыя 17 Мітрапалітаў Вялік. Княства Літоўскага мелі прызнаньне Канстантынопальскага Патрыярха. Асабліваю дзейнасьцю адзначыўся Мітрапаліт Язэп Солтан. І апошнім з Мітрапалітаў у тым часе быў Міхал Рагоза, які ў часе гвалтоўнае вунійнае акцыі, у 1595 годзе перайшоў у вунію, а разам зь ім і Епіскапы: Полацкі, Тураўскі і Наваградзкі. Беларускія праваслаўныя вернікі засталіся бяз духовае апекі. Кіравецтва рэлігійным жыцьцём і змаганьне з прасьлядаваньнем праваслаўных перанялі Праваслаўныя Брацтвы.

На шчасьце ў гэты крытычны мамэнт праязджаў праз Кіеў у Маскву Ерусалімскі Патрыярх ФЕАФАН, які меў дaручэньне ад іншых усходніх Патрыярхаў аднавіць рэлігійнае жыцьцё ў Вяліка-Літоўскай Дзяржаве і Польшчы. Пад аховаю казачага атамана Пятра Сагайдачнага, 6-га кастрычніка 1620 г. уначы ў Кіеве і іншых мясьцінах было пасьвячана і пастаўлена Мітрапаліта і 7 Епіскапаў. І хоць кароль і польская ўлада ня прызнала гэтых герархаў, але факт стаўся фактам, — Мітраполія атрымала сваё кананічнае афармленьне.

Сваіх папярэдніх Катэдраў новапастаўленыя Епіскапы не атрымалі, бо кароль на катэдры прызначаў толькі вунійных епіскапаў, а таму рэлігійнае змаганьне працягвалася.

Ня спынілася змаганьне да асягненьня незалежнасьці Праваслаўнае Царквы і за часоў расейскае акупацыі, калі Царква была падпарадкавана так зван. „Сьвяцейшаму Сыноду". Як прыклад можам успамянуць Архіепіскапа Варлаама Шышацкага, які ў часе паходу Напалеона на Маскву ў 1812 г. далучыўся да ідэялістаў аднаўленьня Вяліка-Літоўскае Дзяржавы, і аднавіў Аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы, за што пасьля перамогі расейцаў над француцамі, быў асуджаны з загаду расейскага ўраду, пазбаўлены сану і сасланы ў Ноўгарад-Северскі манастыр

Яшчэ есьць навочныя сьветкі падзеяў у часе акупацыі часткі нашых земляў бальшавікамі, і помняць добра той гістарычны факт, калі беларускія Епіскапы разам з вернікамі 23-га ліпеня 1922 г. сабраліся ў Катэдральным Саборы ў Менску і абвесьцілі Мітраполію незалежнаю ды выбралі Мітрапалітам Епіскапа Мелхісэдэка.

Ня можна абмінуць і таго гістарычнага мамэнту, калі Канстантынопальскі Патрыярх Грыгоры 7-мы, дня 13 лістапада 1924 г. выдаў „Томас", у якім зазначана, што далучэньне Кіеўскай Мітраполіі і Мітраполіі Літвы і Польшчы да Маскоўскае царквы адбылося не паводля звычайных кананічных правілаў; гэта азначае, што Маскоўская Царква не зьяўляецца Царквою-Маткаю для Праваслаўнае Беларускае Царквы.

Ня зьніклі імкненьні нашага народу да незалежнага рэлігійнага жыцьця і за часоў нямецкае акупацыі Беларусі, бо і ў тым часе ад 30 жніўеня да 2-га верасьня працаваў Усебеларускі Праваслаўны Сабор у Менску, і была абвешчана Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква незалежнаю.

І калі былыя Епіскапы ў 1946 г. зрадзілі беларускіх праваслаўных вернікаў і Царквы, ды перайшлі да юрысдыкцыі Расейскае Зарубежнае Царквы, то не з ініцыятывы ўжо Епіскапаў і пастыраў, а беларускага актыву, 5-га чырвеня 1948 г. у Канстанцы БАПЦарква была адноўленая.

Малем Госпада Бога і Апякунку парафіі Жыровіцкую Маці Божую, каб і ў прышласьці апекаваліся намі й дапамагалі нам узмоцніць нашую Сьвятую БАПЦаркву, каб яна існавала павек вякоў на славу Божую й дабра ўсяго нашага Беларускага Народу. Дапамажы нам Божа!

# ВУНІЙНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ У ПІНСКУ У 1930 Г.

Як толькі пасьля першае сусьветнае вайны аднавілася Польшча, то йзноў паўстала праблема далучэньня праваслаўных да каталіцкага касьцёлу праз вунію.

Да 1923 году вунійная праца праводзілася бяз ніякага пляну й без дырэктываў з Рыму. А першым, хто заняўся афармленьнем вунійнага пытаньня, быў падляскі Біскуп Гэнрык Пшэздзецкі. У 1923 годзе ён зьвярнуўся да Ватыкану з пытаньнем праводжаньня вуніўнае акцыі, бо нібы праваслаўныя жадалі-б далучыцца да каталіцкае царквы, толькі хацелі-б застацца пры сваім усходнім абрадзе, не пераходзіць на лацінскі. 10 сьнежня 1923 г. Біскуп атрымаў адказ з Рыму з далучанымі інструкцыямі, як праводзіць вунійную акцыю, разам з упаважненьнем на гэта для Біскупа Пшэздзецкага. Першымі памоцнікамі Біскупу былі езуіты: Буржуа і Маліноўскі, а таксама і ераманах Сяргей Сьпітэцкі, які прыняў вунію. А калі вунійная акцыя пачала пашырацца за межы Падляскай Епархіі, біскупы: Віленскі, Пінскі, Люблінскі й Луцкі праз нунцыя ў Варшаве дасталі ўпаважненьне на праводжаньне вунійнае акцыі ў сваіх дыяцэзіях, як і Біскуп Пшэздзецкі. Праз некаторы час польскія біскупы пераканаліся, што паміж імі няма ўзгадненьня ў дзейнасьці, а таму і праца іхная не дае пазытыўных вынікаў. Дзеля гэтага была створана „Вунійная Цэнтраля" ў Варшаве. На сакратара быў пакліканы а. Казімер Кулак (беларус), які пераймоў у вунію і да таго часу кіраваў вунійнаю акцыяй у Пінскай Епархіі, і ён-жа падаў думку Біскупу Лазінскаму склікаць вунійную Канфэрэнцыю, якая й адбылася ў Пінску 23-24 красавіка 1930 г.

На Канфэрэнцыю быў запрошаны і Пінскі праваслаўны Епіскап, які аднак удзелу ў Канфэрэнцыі ня прыняў, а прысутнічалі толькі прадстаўнікі ад лацінскага й вунійнага абраду. Абгаворвалася справа, які абрад практыкаваць сярод „незьяднаных", — расейска-сынадальны, ці галіцка-украінскі. Бальшыня выказалася за „расейска-сынадальны абрад". Шмат было ўдзелена часу на мэтоды працы сярод праваслаўных: ці ўжываць слова „праваслаўны", а ня страшыць словам „каталік", „каталіцкі"; ці адзявацца як праваслаўныя сьвятары, або мадэрнізаваць адзеньне, як наагул павінна захоўвацца вунійнае сьвятарства?

Канчальна, аднак, вунійнае пытаньне ня было разьвязана, бо як польскае сьвятарства, так і сьвецкія чыньнікі мелі на мэце праваслаўных пераводзіць беспасярэдня на лацінскі абрад, а не праз вунію, пра што навет сьветчылі выказваньні міністра Грабскага, які сказаў: „у Польшчы ўплывовыя колы наагул ня хочуць слухаць пра вунію, але маюць намер праваслаўных пераводзіць беспасярэдня на лацінскі абрад".

Зьмест другое Пінскае Канфэрэнцыі (пра першую „Кангрэгацыя ў Пінску ў 1790 г." — у № 45 „Г. Ц.") выразна гаворыць, што пастановы яе аднак ня ўплылі на пераход праваслаўных у вунію, а наадварот, завастрылі чуйнасьць праваслаўных. Сьветчыць пра гэта Праваслаўны Місіянерскі Зьезд, які адбыўся ад 3 да 9 верасьня 1933 году ў Пачаеўскай Лаўры пад старшынствам Архіепіскапа Аляксея Грамадзкага. Удзел у гэтым Зьезьдзе прымалі прадстаўнікі ад усіх пяці праваслаўных Епархіяў у Польшчы. Прысутнічалі таксама й дэлегаты з Румыніі. Мэтаю скліканьня Зьезду было супрацьдзеяньне вунійнай акцыі. Пасьля ўступное прамовы Архіепіскапа Аляксея было прачытана некалькі рэфэратаў, у якіх абгаворвалася небясьпека, якая пагражала праваслаўю з боку вуніі. Кароткую гісторыю вунійнае акцыі й яе развой падаў Пратаерэй Пратасэвіч з Варшавы. Спэцыяльны рэфэрат на тэму „Вунія й нашыя адносіны да яе" прачытаў а. Грыгоры Мэцюк, які быў працаўнікам царкоўнага зьеднаньня. У рэфэраце ён папярэджваў, каб сьцерагліся вуніі, і праводзілі змаганьне зь ёю. А спосабам да змаганьня павінна быць: узмацненьне дзейнасьці царкоўных брацтваў, арганізацыя змагароў за праваслаўе ў спэцыяльныя гурткі, місійна-народныя курсы, пашырэньне праваслаўнае літаратуры, вызначэньне спэцыяльных місіянераў пры Сьв. Сынодзе.

(Паводля: „Унійні змагання". О. Орест Куранець.)

# БАРКУЛАБАВА — АБРАЗ БОЖАЕ МАЦІ, МАНАСТЫР, ХРОНІКА

Вёска Баркулабава і манастыр знайходзяцца на Магілеўшчыне, у цяперашнім Быхаўскім раёне, у былой маляўнічай мясцовасьці, пры ўтоку рэчкі Лахвы ў Дняпро. Баркулабаўскі манастыр, як і іншыя храмы Божыя, як і, наагул, уся Надняпроўшчына, слаўныя ў нашай гісторыі, як цьвярдыні праваслаўнае веры й Царквы.

Назоў мясцовасьці, як зазначана ў Баркулабаўскай хроніцы, паходзіць ад імя Дзісьненскага Старасты Баркулаба Корсака, які, атрымаўшы гэтую мясцовасьць як заслугу, заложыў замак і назваў яго сваім імём — Баркулабаў. Сталася гэта ў 1564 годзе. Напрацягу некалькіх гадоў там ужо былі пабудаваныя Храм Сьвятога Духа і Храм Раства Госпада Ісуса Хрыста, які быў пасьвячаны ў 1568-ым годзе. У 1586-ым годзе ў вёсцы Вендараж (пры рэчцы Сенна, 30 клм. на паўдзённы Захад ад Магілева) пабудавана была яшчэ адна Царква — Пакровы Прасьвятой Багародзіцы.

У 1600-ым годзе Стараста Крычаўскага і Алучыцкага паветаў





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

князь Багдан Саламярэцкі, які быў жанаты з удавою па Я. Чартарыйскім, Еваю, дачкой Баркулаба, атрымаў прывілеі на мясцовасьці, запісаныя за яго жонкай Евай: Баркулабава, Буйнічы і Шупенькі.

Князь Саламярэцкі быў праваслаўным магнатам і праціўнікам Берасьцейскае Царкоўнае вуніі. Ён узгадаваў свайго сына й чатыры дачкі ў праваслаўнай веры. Адна зь ягоных дачок Алена была замужам за Падкаморым Мсьціслаўскім Багданам Статкевічам, якому ў парадку спадчыннасьці, паводля граматы з 1627 г., перайшлі памянёныя мясцовасьці.

У гэтым часе, паводля каралеўскага дэкрэту, праваслаўныя на Літве (Беларусі) ня мелі права будаваць ні новых цэркваў ні манастыроў. Каб абмінуць гэты каралеўскі дэкрэт, праваслаўныя магнаты ахвяроўвалі ўласныя землі, якія не падлягалі каралеўскаму дэкрэту, для будовы цэркваў і манастыроў.

Да такіх ахвярадаўцаў належаў і Багдан Статкевіч. Ён-жа быў і ўласьнікам будаўнічым Куцеінскага Богаяўленскага манастыра пад Оршай, дзе была заложана друкарня, і беларускі друкар С. Собаль навучыў друкарскай справе манахаў. І дзе было выдана шмат кніжак царкоўнай і сьвецкай накіраванасьці, у тым ліку й „Буквар" Собаля. Друкарня існавала да 1654 году; у 1665 г. абсталяваньне друкарні спосабам грабяжу было перавезена ў Васкрасенскі манастыр пад Масквой.

Багдан Статкевіч ахвяраваў грунт у Баркулабаве з млыном, будынкамі і ўсёю маемасьцю на будову манастыроў, даручаючы будаваньне мужчынскага манастыра Ігумену Куцеінскага манастыра Іаілу Труцэвічу, а будову жаночага манастыра — Ігумені Фіцыне Кіркор. Перадача была зацьверджана граматай і падпісана ў Баркулабаве Лета Божага ад Нараджэньня 1641-га, месяца чэрвеня 24-га дня (Акт. Зап. Росс. СПБ, б. 68-72).

Дзякуючы дасьветчанаму Ігумену Труцэвічу, манастыр напрацягу кароткага часу быў пабудаваны і стаўся асяродкам рэлігійнаасьветнага жыцьця, а навет і грамадзка-палітычнага.

Багдан Статкевіч быўшы падкаморым Мсьціслаўскім ахвяраваў пляц для Брацтва ў Магілеве, дзе праз некаторы час месьцілася Мсьціслаўска-Магілеўска-Аршанская Мітраполія, якая ўжо ў 17 сталецьці называлася і Беларускай Мітраполіяй.

Магілеўскае Брацтва дало вялікую ўспамогу пры будове Баркулабаўскага манастыра. Успамога гэтая выказалася ня толькі ў папаўненьні людзьмі, але і ў нутраным абсталяваньні сьвятыняў і ў мастацкім афармленьні.

Роля брацтваў у тагачасным жыцьці была неацаненная. У сябры брацтва прымаліся братчыкі з розных слаёў грамадзтва, пачынаючы ад магнатаў, якія часта былі галоўнымі фундатарамі брацтва, але складка вызначалася аднолькавая для кажнага. І ў кажным братчыку шанавалася асоба чалавека (Арт. пра ролю брацтваў у Вял. Кн. Літоўскім у 43 нумары „Гол. Царквы"). Поступ жыцьцёвы ішоў хрысьціянскаю дарогаю.







Шырокую ведамасьць Баркулабаўскі манастыр здабыў праз Абраз Божае Маці, які праславіўся цудамі па ўсёй Надняпроўшчыне, асабліва ў самым манастыры, і ведамы быў па-за межамі Княства Літоўскага. Ёсьць некаторыя цьверджаньні, што Баркулабаўскі Абраз Божае Маці паходзіць з мастацкае школы Магілеўскага Брацтва. Выгляд Абраза падобны да Менскага Абраза Божае Маці і да Смаленскага, з тэй розьніцай, што ён не каранаваны, і як-бы зьліжаны да спадобы й разуменьня шырокіх слаёў працоўнага люду. Але ёсьць прыпушчэньні, што Абраз маляваны ў Кіеве. І ёсьць лягенда, як Абраз вязьлі па Дняпры ў Куцеінскі манастыр. А калі ўжо палажылі на воз, каб вязьці на месца прызначэньня, то коні не пашлі, і колькі коней ні падпрагалі, яны ня зрушыліся з месца. Тады памеркавалі, што тут адбываецца цуд, і пастанавілі на гэтым месцы пабудаваць манастыр... Але гэта лягенда...

Асабліва вартасны помнік, як пра Баркулабава і яго сьвятыні, так і наагул, помнік нашае нацыянальнае культуры — Баркулабаўская Хроніка-летапіс. Хроніка ахоплівае час з 1545 году па 1608. У ёй апісваецца царкоўнае жыцьцё, дзейнасьць брацтваў, жыцьцё й быт сялянства, іх звычаі і думы. „Асабліва багатыя на бытавыя дэталі і цікавыя з мастацкага боку замалёўкі пра неўраджайныя гады канца 16-га і пачатку 17-га сталецьцяў", упамінаецца ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

У хроніцы пададзеныя некаторыя дзяржаўныя й прыватныя дакумэнты і розныя запісы, як і падзеі палітычныя. У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі адзначаецца: „Самабытная жывая гутарковая мова таго часу, спэцыфічнае па адборы матэрыялаў і высокамастацкае ў стылі і сродках моўнай выразнасьці адлюстраваньне будняў тагачаснага сялянскага жыцьця ставяць Баркулабаўскі летапіс у шэраг найвыдатнейшых помнікаў беларускай нацыянальнай культуры".

Якая прычына перашкодзіла далейшаму пісаньню хронікі? Прычына была адна для ўсіх нашых хронікаў ды розных гістарычных запісаў. А царкоўных хронікаў вялося шмат — даводзілася чуць пра гэта — як відаць, нібы ў царкоўны абыходак гэта ўвайшло, але ўсё гэта было зрабавана, зьнішчана, спалена, як і вялізарная бібліятэка ў Полацку, з „ласкі" Івана Грознага. Баркулабаўская хроніка ўцалела — у Маскве (Дзяржаўны гістарычны музэй. Сінадальны збор. № 790). Па ўсім іншым астаўся толькі горкі ўспамін.

**А.**

*З ПАНЯВОЛЕНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ*

## НАЗОЛА „АТЭІЗМУ"

З розных крыніц плывуць весткі пра змаганьне з рэлігіяй на Бацькаўшчыне. Найбольш выяўляецца гэта ў савецкай прэсе. Выдаюцца адмысловыя кнігі з так званымі „навуковымі" творамі розных кандыдатаў навук, у пэрыядычным друку зьмяшчаецца безьліч супрацьрэлігійных артыкулаў, а на мясцох праводзіцца дакладна арганізаваная акцыя, каб ахапіць усё насельніцтва бяз вынятку. Змаганьне гэтае вядзецца пад шыльдай пашырэньня атэізму. Але не ў атэізьме тут сутнасьць. Атэізм, фактычна, азначае адмаўленьне Бога, як Творцы Сьвету, і поўную абыякавасьць да ўсякай рэлігіі. Пры бальшавізьме-ж атэізму нададзены іншы сэнс. Як кажацца ў „Беларускай Савецкай Энцыклапедыі": „Маркса-ленінскі атэізм узьнік на глебе клясавай барацьбы пралетарыяту. Для навуковага атэізму ўласьцівы творчы, ваяўнічы характар, сапраўды гуманістычная сутнасьць, **цесная сувязь з практыкай барацьбы працоўных за камунізм"** (падкрэсьленьне нашае — Рэд.). Вось як лёгка ўсё перакручана, і разбурэньне названа творчасьцяй, а чалавекагубства — гуманізмам. І вось гэты ленінскі камунізм і сам ягоны творца Ленін падсоўваюцца, як рэлігія, як вера: сутнасьці-ж таго камунізму ня ведае ані той „пралетарыят", ані цяперашнія барацьбіты за яго, ані сам Ленін.

Як відаць, вынікі тэй „атэістычнай" прапаганды нездавальняючыя для верхаводаў бальшавізму, і яны ўсьцяж падганяюць сваіх „падпасічаў" да актывізацыі. Асаблівая ўвага зварачаецца на моладзь праз арганізацыю ЛКСМБ, — г. зн. „Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі". Адзін з сакратароў ЦК ЛКСМБ — Ягораў — на сэмінары сакратароў райкомаў, гаркомаў, абкомаў і загадчыкаў аддзелаў прапаганды й агітацыі казаў: „Цяпер пры большасьці гарадзкіх і раённых камітэтаў камсамола, у буйных камсамольскіх арганізацыях створаны саветы па*) атэістычнаму выхаваньню моладзі. Добра зарэкамэндавалі сябе такія саветы ў Рагачоўскім, Гомельскім,Брагінскім, Нясьвіжскім, Стаўбцоўскім,**) Валожынскім раёнах. Вялікую работу па атэістычнаму выхаваньню моладзі праводзяць правесьці ў Іванаўскім, Столінскім, Гродзенскім, Ваўкавыскім, Міёрскім, Астравецкім раёнах" (з газэты „Чырвоная Зьмена", 31. VII. 76).

У газэце „Чырвоная Зьмена" з 24. VI. 76 г. зьмешчаны артыкул „Раўненьне на час", з падзагалоўкам „Атэістычнае выхаваньне". У артыкуле пададзеныя справаздачы сяброў РК ЛКСМБ Лідзкага раёну зь іхнай атэістычнай дзейнасьці. З гэтых справаздач відаць, як шырака й напорна праводзіцца цяпер атэістычная прапаганда. Дзеля азнаямленьня падаём кароткія выпіскі з тых справаздачаў.

**Леанід Янчанка,** першы сакратар РК ЛКСМБ:

„Галоўны прынцып, якім кіруецца райком — весьці работу па атэістычнаму выхаваньню моладзі комплексна. З гэтай мэтай пры райкоме створаны савет па атэізму, у які ўваходзяць камсамольскія актывісты і работнікі райвыканкома, настаўнікі і лектары, медыкі і культасьветработнікі. Савет каардынуе работу зацікаўленых установаў, накіроўвае яе ў адзінае рэчышча".

---

*) У беларускай савецкай мове асабліва рэжа вуха канструкцыя з „па" („па атэістычнаму выхаваньню"), твораная на расейскі лад.

**) Стары назоў мястэчка Стаўпцы сьпярша пераменаваны быў у Стòлпцы; але да бальшавікоў і парасейску пісалі — Столпецкій.



**Данута Ашмяна**, сакратар РК ЛКСМБ:

„У нашым раёне дзейнічаюць 5 цэркваў і тры касьцёлы, высокі працэнт верачых сярод дарослага насельніцтва. Усё гэта адмоўна ўплывае на дзяцей. Таму вельмі важна з першых дзён наведваньня школы высьветліць адносіны дзіцяці да рэлігіі. Так, у Тарноўскай сярэдняй школе вучняў з сем'яў верачых бяруць пад самы пільны кантроль. Індывідуальную работу праводзяць як з самымі вучнямі, так і з бацькамі. Наогул, ні адзін бацькоўскі сход не абыходзіцца без абмеркаваньня пытаньняў атэістычнага выхаваньня. З малодшых класаў вучняў прыцягваюць да заняткаў у гуртку „Атэіст", праводзячы адначасна конкурсы на лепшае выкананьне вершаў, баек, прыпевак антырэлігійнай накіраванасьці".

Можна сабе ўявіць, якая брудота будзе адзначацца за лепшую „творчасьць".

**Ірына Палубенка,** другі сакратар РК:

„Чалавек скончыў школу, прыйшоў працаваць у калгас, на будоўлю, прадпрыемства. Сьветапагляд яго ў асноўным сфармаваўся. Але гэта ня значыць, што аэтістычнае выхаваньне можна спыніць. Як сьведчаць факты, перапынкаў у гэтай рабоце не павінна быць . . . Асаблівае месца ў ёй займае сыстэма палітычнай адукацыі моладзі. У гэтым годзе ў раёне дзейнічала 46 гурткоў і сэмінараў. Сярод іх — 7 гурткоў „Асновы навуковага атэізму". Мяркуем арганізаваць яшчэ 6 клубаў маладых атэістаў. Цяпер у раёне працуюць 3 такія клубы . . . Ёсьць хібы, якія неабходна паправіць. Так, не вядзецца ў райкоме ўлік прачытаных лекцый . . . І што яшчэ больш дрэнна, не вывучаецца рэакцыя маладзёжнай аўдыторыі на прачытаныя лекцыі. Ніякіх апытаньняў не праводзілася, думкі моладзі не вывучаліся . . ."

Якія-б там „вывучэньні" ні праводзіліся, якія-б „апытальнікі" ці анкеты ні выконваліся, праўдзівага стану рэлігійнасьці насельніцтва не даведаюцца: ніхто ня будзе лічыць патрэбным выяўляць праўду пра свае рэлігійныя настроі й перакананьні там, дзе за іх перасьледуюць.

**М. І. Цебянькоў,** адказны сакратар раённага таварыства „Веды":

„Работу палітгурткоў дапаўняе лекцыйная прапаганда, якую вядзе лектарская група райкому сумесна з таварыствам ‚Веды' . . . У нас працуюць 29 лектараў атэістаў. Мы пастаянна праводзім сэмінары, заняткі ў навукова-метадычнай сэкцыі па атэізму, якую ўзначальвае дырэктар Тарноўскай школы Л. А. Бондар. Але, як ужо зазначалася, узровень падрыхтоўкі лектараў-атэістаў пакідае жадаць лепшага. І гэта датычыць ня толькі лектараў-настаўнікаў, пра якіх гаварыла Данута Ашмяна. Высокакваліфікаваных спэцыялістаў па атэістычнай прапагандзе недастаткова і ў таварыстве ‚Веды' ".

Што да гэтых „высокакваліфікаваных", то яно тут гучыць і грэшна і сьмешна. Дзеля гэткага сорту „кваліфікаваных" у нашай мове ёсьць адпаведнейшае слова, якое азначае зусім нізкую „кваліфікацыю".

**Зоя Абдурахманава,** бібліятэкарка, член савету па атэізму пры РК ЛКСМБ:

„Кніга ўзьдзейнічае на розум і пачуцьці чалавека, таму мы, бібліятэкары, адначасова зьяўляемся і прапагандыстамі атэізму сярод нашых чытачоў. У кожнай бібліятэцы раёну ёсьць куткі атэіста. Сталі ўжо традыцыйнымі ў нас так званыя атэістычныя пятніцы — штомесячныя чытаньні, якія праводзяць усе бібліятэкі раёну . . . наладжваем выстаўкі кніг, вусныя часопісы. Трэба адзначыць, што фонд атэістычнае літаратуры ў нас пастаянна павялічваецца: зараз яе ў раёне амаль 24 тысячы экзэмпляраў . . ."

**Г. Ф. Круглая,** загадчыца раённага ЗАГсу, пахваляючыся пра ўрачыстыя рэгістрацыі шлюбаў зазначае: „Горш наладжана справа з урачыстай рэгістрацыяй дзяцей. Ніякіх рэкамэндацыяў, распрацовак адносна гэтага рытуалу няма . . .”

І нарэшце, той-жа старшыня РК Камсамолу Леанід Янчанка паспавядаўся словамі савецкага ардэнаноснага пэдагога В. А. Сухамлінскага: „Я **веру** ў магутную сілу камуністычнага выхаваньня . . .” Вось гэта і ёсьць не атэізм, а камуністычная вера.

У кажнага, хто прачытае, альбо пачуе пра гэтае татальнае змаганьне з Богам, паўстане пытаньне: якія-ж вынікі гэтага змаганьня? І на гэта нельга даць дакладнага адказу. Найменшай вартасьці ня маюць і тыя анкеты-апытальнікі, якія там праводзяцца, і той падзел душ людзкіх на верачых, няверачых, абыякавых . . . Гэта не матэматыка . . . Крышку сьвятла пранікае праз ліст жыхара Слуцку А. Палехіна ў рэдакцыю газ. „Советская Белоруссия” (28. 8. 1976) „Пра крыжыкі і варажбу”.

„Паважаная рэдакцыя! Часта бываючы ў Менску, дзе жывуць мае дзеці і ўнукі, я сустракаю на вуліцах маладых людзей з крыжыкамі на шыі. Гэта не зарубежныя турысты, а нашы савецкія юнакі й дзяўчаткі. Чаму яны носяць крыжыкі, дзе іх бяруць? І яшчэ — куды глядзяць камсамольскія, грамадзкія арганізацыі тых калектываў, дзе гэтыя маладыя людзі працуюць ці вучацца?

Цяпер іншае ня менш важнае пытаньне. У нас у Слуцку на рынку каля магазыну сельгаспрадуктаў заўсёды „дыжураць” цыганкі, часам іх зьбіраецца да дзясятка. Яны ловяць даверлівых, адводзяць убок і варожаць ім. Не задарма, ведама. Думаю, цірaз бачылі гэта камсамольскія актывісты, працаўнікі міліцыі. Але чамусьці ніякіх захадаў ніхто ня робіць. Я думаў, што гэта адбываецца толькі ў нас, але аказваецца, і ў Менску варожаць проста каля чыгуначнага вакзалу, каля магазыну „Синтетика”.

Варожаць пэўна і ў Маскве, і ў самым ЦК партыі.

## ДОЛЯ ЖАНЧЫН ПАД БАЛЬШАВІЗМАМ

У савецкім стылі ўладараньня ўвайшло ўжо ў звычай, бязмала не ў закон, узьнімаць акцыю пахвальбы таго, што ў запраўднасьці вельмі паганае й кампрамітацыйнае для савецкае ўлады.

Гэтак, галасілі „Жить стало лучше, жить стало веселей” у той час, калі міліёнамі гіблі разагнаныя па Сібіры людзі, а таксама галасілі пра „шчасьлівае савецкае дзяцінства” тады-ж, калі па ўсім СССР разбрыліся асірочаныя дзеці высланых бацькоў, і гіблі й гібелі ад голаду, холаду.

Цяпер узяліся выхваляць долю жанчын пад саветамі, і навет выпускаюць хвалебныя брашуры, тымчасам доля жанчыны пад саветамі такая горкая й ліхая, як нідзе ў іншых цывілізаваных краінах. Відавочна гэта навет з тых-жа іхных брашураў, даносіцца яно й праз шчыліны зялезнае заслоны, таксама ў пісьмах з прыватнае перапіскі, хоць там і баяцца людзі пісаць горкую праўду.

Атрымана і ў нас брашура пад тытулам „Своей судьбы хозяйки”, з падзагалоўкам „Женщины Советской Белоруссии”. Мінск, 1975 г.; аўтар — Вячеслав Ходосовский; выданьне агіткі „Голас Радзімы”

З увагі на тое, што брашура прызначаецца для прапаганды за межамі СССР і бударажаньня жанчын у іншых краінах, у ёй бязьмежная пахвальба, і бязьмежная й наглая ілжа. Брашура мае на ўвазе перадусім БССР. Падаецца агульная лічба жанчын у БССР — чатыры міліёны, 985 тысячаў.



„Савецкім жанчынам, — гаворыцца ў брашуры, — права на працу гарантавана Канстытуцыяй. Значэнна, што такіх, якія-б не хацелі скарыстаць з гэтага права, у нас няма. 92.5 працэнта ўсіх працаздольных жанчын у СССР заняты агульна-карыснаю працаю, або вучацца. На прыкладзе Беларусі можна пераканацца, што няма ніводнае сфэры дзейнасьці, дзе-б жанчыны не займалі дастойнае месца”. — Дастойнае ці недастойнае, але жанчыны працуюць усюды там, дзе й мужчыны, і ўсюды там, дзе й мужчыны, яны ёсьць. Ёсьць яны й на цяжкіх земляных работах, на цагельных, бетанярнях, дзе цэглу й бетон амаль на плячох цягаюць, пры будоўлях, на падземных работах, у сібірскай тайзе, на лясных распрацоўках і, пэўна-ж, у крэпасьцях таго „Архіпелагу Гулагу”. Канстытуцыя гэтым „правам” іх забясьпечыла. Аднак, у палітыцы жанчын амаль няма — ім поўны недавер.

Між іншым, у канцы мінулага году ў Маскве адбылася нарада кіраўнікоў дрэваапрацоўчых камбінатаў і лесапрамгасаў, пад старшэнствам міністра лясной прамысловасьці СССР. І ён гаварыў пра 900 тысяч жанчын лесавікоў па Савецкім Саюзе, і пад сто тысяч з гэтага ліку працаўніц-лесавікоў у найбольшым леспрамгасе на берагох Брацкага мора ў цэнтры Сібіры, там адных жанчын „сучкарубаў” (новы тытул жанчынам) працуе 30 тысяч. Міністр дакляраваў палепшаньне жыльлёвых умоваў, як і харчаваньня, і наагул, быту. Але гэта дэкларацыі, якія ў бальшавікоў ніколі не ажыцьцяўляюцца, а жыцьцё працягваецца ў нечалавечых катаржальных умовах.

Дык вось, што да працы, то канстытуцыя забясьпечыла не правам, а прыгонам, бо жыцьцёвыя ўмовы гоняць жанчыну на працу, бо праца жанчыны-маці, хатняй гаспадыні, ня лічыцца за працу, а заробку мужчыны-мужа нехапае на выжыўленьне навет траіх асобаў (самога й жонкі з дзіцем).

Пахваляючы долю жанчынаў пад саветамі, аўтар брашуры досыць выразна выявіў умовы быту падсавецкага. „За гады 9-ай пяцігодкі, — піша ён: — зьдзейсьнены цэлы рад сацыяльных мерапрыемстваў, якія прынясьлі „дополнительныя блага” міліёнам савецкіх жанчын. Так, быў павялічаны лік аплачваных непрацоўных дзён у сувязі з захворваньнем дзіцяці, аплата водпуску з увагі на цяжарнасьць і роды выконваецца цяпер у памеры поўнай заробкавай платы, незалежна ад стану працы; уведзены дапамогі для дзяцей у сем'ях **з месячным даходам, меншым за 50 рублёў на асобу ў сям'і”.**

Значыць, 50 рублёў на асобу ў сям'і — гэта ўжо будзе поўнае „блага”. Возьмем па 50 рублёў на асобу ў сям'і з трох асобаў, атрымаецца — 50.3.12 — 1.800 рублёў гадавога даходу, а з 4-х асобаў — 50.4.12 — 2.400 руб., гэта пры двух працуючых. І гэта прыблізна паўтарамесячны заробак двух амэрыканскіх работнікаў сярэдняй аплатнасьці. Да гэтага трэба дадаць, што пакупная вартасьць савецкага рубля нявартая й паўдаляра. Дык у „капіталістычных” краінах заробку аднаго работніка хопіць на выжывеньне сям'і з некалькіх асобаў, а ў савецкай „прадкамуністычнай” заробку дзьвёх асобаў хопіць толькі на жабрачае йснаваньне малой сям'і.

Вось-жа жанчына-маці ў „капіталістычных” краінах мае права й магчымасьць, ня йдучы на зарабковую працу, быць гаспадыняй у сваёй хаце, бо пры доме, пры малых дзецях аж занадта працы. Падсавецкая жанчына гэтай магчымасьці, а затым і права пазбаўленая. Праца жанчыны, як хатняй гаспадыні, за працу не ўважаецца. Гэтую працу жанчына-маці змушана выконваць у пазапрацоўныя гадзіны.

Яна яшчэ перад выхадам на дзённую працу напрацуецца дома. А вышпаўшы з работы й набегаўшыся з „авоськай" па магазынах ды часьцяком вярнуўшыся дадому з парожнай „авоськай", зноў бярэцца за працу. Колькі-ж ёй астаецца часу на адпачынак? Найгоршыя-ж умовы жыцьця ў тых „камунальных" кватэрах. Плошча выдзяляецца заўсёды недастатковая. Супольныя кухні для некалькіх сем'яў, так як супольныя прыбіральні-туалетныя. Там сьціск, гвалт, сваркі й праклёны.

У гэтых умовах ціску й сталай нястачы найцяжэйшы лёс жанчынымаці. Апрача заробкавай працы й хатніх клопатаў, у яе сталы й найважнейшы клопат, як і дзе ўладкаваць дзяцей. Немаўлят там маці кормяць малаком сваіх грудзей. І гэта ня кепска, бо адмова ад натуральнага кармленьня немаўлят у пэўнай меры спрычыняецца да спаду ўзаемалюбові між бацькамі й дзяцьмі, тэй, сказаць-бы, арганічнай любові, якая змушае маленькую птушачку кідацца на зьвера ў абароне сваіх дзяцей. Але-ж сама маці мусіла-б мець дастатковае пажыўленьне, добрую апеку й пашану. Але гэтага няма. Затое непамерна абцяжаная працай. І тут трэба адцеміць, што жанчына пад паглядам вынясьлівасьці й цярпеньня мацнейшая за мужчыну. І яна выцерплівае.

Як на ўспамогу для маці, аўтар успамінанай брашуры спасылаецца на ясьлі, якіх ёсьць, пэўна, нямала — „даже в деревнях", як піша Хадасоўскі. Але яны чынныя толькі ўдзень, і туды маці павінна зрана прыносіць, а па рабоце забіраць дзіця. Апрача таго маці павінна некалькі разоў на дзень бегчы ў ясьлі пакарміць дзіця сваімі грудзьмі. Але і тут Хадасоўскі не амінуў пахваліць савецкую ўладу, што яна **дазваляе** мацяркам на гэтыя „пабягушкі". Гэтая-ж, хвалёная праз агітпроп, савецкая ўлада — як няздольная забясьпечыць рабочы люд кватэрамі і належным харчаваньнем, так няздольная забясьпечыць дзіцячыя ясьлі дзяцінным харчаваньнем.

Характэрна, што навет і на фатаграфіі, зьмешчанай у памянёнай брашуры,паказаны ня дзеці, а штучныя лялькі, а падпісана — „Первые часы жизни". Калі ілжа, то камплектная.

Аўтар брашуры Хадасоўскі, выказаўшы перш абсалютную ілжу, што „жаночае пытаньне ў сутнасьці пасьпяхова вырашана самым ходам сацыялістычнага будаўніцтва", лічыў, аднак, патрэбным агаварыцца:

„Ці значыць гэта, што ў нас зроблена ўсё магчымае для стварэньня аптымальных умоваў жыцьця й дзейнасьці жанчын? Бязумоўна, не. Належыць яшчэ шмат чаго зрабіць у перабудове быту савецкай сям'і, каб паменшыць хатнюю занятасьць жанчын".

Пра якую гэта „перабудову быту савецкай сям'і" пускаецца туман у вочы? Ці не напамінак гэта пра тую Ленінскую хімеру-дэклярацыю, якая пашыралася у часе кастрычніцкай рэвалюцыі, што бацькі будуць толькі нараджаць дзяцей, а гадаваць будзе дзяржава. Гэта ўваходзіла ў Ленінскую праграму, як дапаможны спосаб пры ўзгадаваньні таго „новага чалавека-бальшавіка", выпаласканага духова.

Нарэшце — як жанчына паважаецца й шануецца ў СССР, а ў асобнасьці ў БССР — відаць з тытулаў, якія ёй „прысвоеныя" афіцыйна: у калгасах — цялятніца, кароўніца, даярка, сьвінарка; а у прамысловасьці — матальшчыца, пяцельшчыца, ды вось тыя „сучкарубы", ды іншыя падобныя. Колькі-ж тут цынізму й пахабшчыны! А тыя ўзнагароды ардэнамі, мэта якіх таксама прыгон да працы, „памагаюць" ня лепш, як кашаль пры хваробе.

**С-кі.**



## ПАРАФІЯ Ў КЛІЎЛЭНДЗЕ

**Юбілейнае сьвяткаваньне 25-х угодкаў заснаваньня Парафіі БАПЦарквы ў Кліўлэндзе і 685-х угодкаў зацьверджаньня Навагрудзкае Мітраполіі.**

Сьвяткаваньне адбылося 23-24 кастрычніка сёлета. На ўшанаваньне гэтых двух юбілейных датаў на ўрачыстасьць былі запрошаны: Уладыка Мікалай з Таронта, а. Грыгоры Кістнэр з Нью-Ёрку, а. Максім Таўпека з Дэтройту і суседнія ўкраінскія сьвятары.

Увечары 23. 10. 76 была адслужана Вячэрня, а ў нядзелю 24. 10. 76 а гадзіне 10 рана Саборная Архірэйская Багаслужба ў саслужэньні: Мітрапаліта Андрэя, Архіепіскапа Мікалая, а. Грыгора, а. Максіма, і Малебен Удзячнасьці з удзелам Пратаерэя а. Хведара Каваленко з Украінскае Царквы Сьв. Тройцы.



**На Сьвяце 25-лецьце Парафіі, у часе Малебну. Стаяць у царкоўным аблачэньні — з правага ў левы бок: Мітрапаліт Андрэй, Архіепіскап Мікалай, а. Максім, а. Грыгоры.**

Ужо ў суботу прыехала на ўрачыстасьць некалькі парафіянаў з Таронта — Канады і з Дэтройту з а. Максімам. У нядзелю-ж наведала Багаслужбу шмат украінцаў з суседняе украінскае царквы, а таму царква была так перапоўнена, што ўсе не маглі зьмясьціцца ў царкве, каб супольна узносіць малітвы да Госпада Бога й Апякункі Парафіі Сьв. Жыровіцкае Божае Маці. Усе прысутныя былі захоплены прыгожым сьпевам хору пад кіравецтвам Уладзімера Літвінка.

Глыбока-зьмястоўную казань у ангельскай мове сказаў а. Грыгоры, а Уладыка Андрэй азнаёміў прысутных з гістарычным фактам зацьверджаньня Навагрудзкае Мітраполіі Ўсяленскім Канстантынопальскім Патрыярхам.

Пасьля Багаслужбы ўсе прысутныя зыйшлі ў Царкоўную залю, дзе ўжо на сталох быў прыгатаваны супольны абед. Нажаль, і тут трэба зазначыць, што ў зьвязку з неспадзяваным прыбыцьцём вялікага ліку людзей, ня было магчымасьці зьмясьціць усіх жадаючых быць на абедзе, а таму некаторыя ад'ехалі дамоў.

Кіраўніком на абедзе быў Уладыка Мікалай. Першым прывітаў пры-

сутных сын Майора Кліўлэнду Ралф Пэрк, які прынёс ад Майора прывітальную грамату. А ў сыботу 21 кастрычніка пра ўрачыстасьць у англамоўнай прэсе „Кліўлэнд Прэсс" была зьмешчана карэспадэнцыя і фотаздымка царквы з настаяцелем і дыяканам.

Даклад пра заснаваньне і дзейнасьць Парафіі на працягу 25-ці год прачытаў праф. А. Каханоўскі.

Уладыка Андрэй прачытаў прывітаньні: ад Прэзыдэнта Рады БНР, Д-ра Жук-Грышкевіча, ад Пратаерэя В. Кендыша, ад Пратаерэя Карпа Стар — парафіі ў Дороты, Н. Дж., Пратаерэя М. Мігая з Таронта, Інж. Міколы Гарошка ад Парафіі ў Брукліне, Васіля Русака — Сакратара Парафіяльнае Рады Парафіі ў Гайлэнд Парк.

Асабіста прамаўлялі: Пратаерэй а. Хведар Каваленко і Мітрафорны Пратаерэй Сьцяпан Ганкевіч ад імя парафіяў Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Кліўлэндзе, Архітэктар А. Назарэц, які будаваў царкву, Др. Язэп Сажыч ад імя парафіі ў Дэтройце, Антон Шукелойць з Нью-Ёрку ад імя Галоўнае Управы БАЗА, Кастусь Акула — ад Клюбу „Пагоня", Кірка і Цэлеш ад імя парафіі ў Таронта, Амброзі Ніна, якая артыстычна прадэклямавала свой верш у форме прывітаньня, і наапошку а. Грыгоры Кістнэр ў ангельскай мове, якога авацыйна прысутныя віталі.

Закончылася афіцыйная частка малітваю „Дастойна Есьць". Пасьля гэтага прысутныя, пачаставаўшыся караваем, з цікавасьцю прагледзелі мастацкую частку. Моладзь пад кіравецтвам Марыі Каваленка пратанцавала „Лявоніху" і „Крыжачок", а жаночы ансамбль „Васількі" пад дырыгенствам Уладзімера Літвінка выканаў песьні: „А ў полі вярба", „Ручнічкі", і „Ой і сеяла Ульяніца лянок".

### Парафіяльнае сьвята

Гадавое Парафіяльнае Сьвята — дзень Патронкі Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе — сёлета адбылося ў нядзелю 23-га травеня. Уладыка Мітрапаліт Андрэй у асысьце а. Максіма з Дэтройту і пратадыякана Міхася Страпка а 10-ай гадзіне раніцы адслужыў Архірэйскую Божую Службу. Затым адслужыў Малебен з крыжовым ходам навокал царквы, а ўканцы сказаў прыгожую пропаведзь з нагоды сьвята патронкі — Жыровіцкае Божае Маці.

На супольным абедзе выступалі з прывітаньнем ад Парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце а. Максім і Я. Бруцкі. Ад суседняй украінскай Царквы прывітаў пратаерэй Хведар Каваленка. Ен падкрэсьліў вялікае значэньне БАПЦарквы на эміграцыі і заклікаў да далейшага супрацоўніцтва. У канцы Мітрапаліт Андрэй, прывітаўшы ўсіх з сьвятам, каротка ўспамянуў пра пачатак заснаваньня Парафіі й адначасна заўважыў, што сёлета прыпадае 25-лецьце заснаваньня Парафіі, і гэтую гадавіну трэба ўрачыста адзначыць.

### Разьвітаньне з дырыгентам К. Кіслым

7-га лютага сёлета дырыгент парафіяльнага хору ў Кліўлэндзе, брат Канстантын Кіслы, цяжка занядужаў: яму спараліжавала правы бок і адняло мову. Дзеля таго, што ён патрабуе апекі і дагляду, дачка Галіна, прыехаўшы ў адведзіны, пастанавіла заапекавацца ім і забрала яго да сябе ў Беласточчыну, дзе ён раней пражываў.

Сп. К. Кіслы прыехаў у Кліўлэнд у 1956 годзе. Будучы здольным дырыгентам, ён паставіў царкоўны хор на высокім узроўні, які сваімі сьпевамі упрыгожваў Божыя Службы і гэтым прыцягаў людзей да царквы. Таксама К. Кіслы зарганізаваў сьвецкі мяшаны хор і жаночы, якія карысталіся вялікаю папулярнасьцю падчас выступаў на канцэртах, угодках ці імпрэзах, як у беларускім асяродзьдзі, так і навонкі. Апрача гэтага ён быў настаўнікам беларускае сыботняе школы і настаўнікам дырыгенцкіх курсаў.



**На разьвітаньні з К. Кіслым—сядзіць у сяродку пры Мітр. Андрэю**

У сувязі зь яго ад'ездам усе мясцовыя арганізацыі: Царкоўны хор, Парафіяльная Рада, Аддзелы — БАЗА, Моладзі, Жанчын, запрасіўшы грамадзтва калёніі, наладзілі яму разьвітальны банкет, які адбыўся 11-га верасьня ў Грамадзкім Цэнтры „Полацку". У часе банкету прамаўлялі: Мітрапаліт Уладыка Андрэй, праф. А. Каханоўскі, старшыня Аддзелу БАЗА і ад жаначога згуртаваньня, і дырыгент хору Ул. Літвінка, якога падрыхтаваў на свайго заступніка брат К. Кіслы. Усе прамоўцы высока цанілі вялікую й ахвярную ягоную працу, як у рэлігійным, так і ў грамадзкім жыцьці, і шчыра жадалі поўнага выздараўленьня і спатканьня незабавам зноў у Кліўлэндзе.

У нядзелю 12-га верасьня, пасьля Сьв. Літургіі ў царкве Жыровіцкае Божае Маці, быў адслужаны Малебен у прысутнасьці самога Кіслага за яго выздараўленьне й шчасьлівае падарожжа.

### У пашану матак

Беларуская калёнія ў Кліўлэндзе сёлета сьвяткавала Дзень Маці 9-га травеня. Пасьля Сьв. Літургіі Яго Высокапраасьвячэнства Мітрапаліт Андрэй у асысьце пратадыякана Міхася Страпка адслужыў Малебен за матак і ўканцы сказаў адпаведную казань, падкрэсьліваючы першарадную ролю матак у сямейным жыцьці, і паважную ў нацыянальна-вызвольным руху.

Пасьля Багаслужбы ўсе зыйшлі ў царкоўную залю на супольны абед, які падрыхтавалі мужчыны й сяброўкі Аддзелу Моладзі. Перад

абедам сябры моладзі ад Парафіі прышпілілі ўсім маткам у дар жывыя кветкі. У часе абеду старшыня Парафіяльнае Рады К. Калоша прывітаў Матак зь іхным сьвятам, падзякаваў за прысутнасьць і падкрэсьліў, што Маткі мясцовай беларускай калёніі асабліва рупныя й прыкладныя ў грамадзкай дзейнасьці. Яны шмат дбаюць пра сваю сям'ю, узгадаваньне дзяцей у беларускім духу, добрыя гаспадыні, шануюць царкву і памагаюць грамадзкім арганізацыям.

Ад Аддзелу БАЗА прывітаў Матак старшыня Я. Раковіч, які падзякаваў за вялікую дапамогу ў наладжаньні сьвяткаваньняў, угодкаў ці імпрэзаў, ладжаных Аддзелам.

Абед закончыўся разьдзелам караваю Матак, пасьля чаго далей праводзілі весела час, сьпяваючы народныя песьні.

### Парафіяльная маёўка

18-га ліпеня Парафіяльная Рада наладзіла парафіяльнную маёўку, якая адбылася ў грамадзкім цэнтры „Полацак". Уладыка Мітрапаліт Андрэй у асысьце пратадыякана Міхася Страпка адправіў Божую Службу тут у лесе пад адкрытым небам у суправодзе хору пад кіраўніцтвам Ул. Літвінкі.

Адразу пасьля службы распачалася маёўка, дзе жанчыны падрыхтавалі панадны абед. Пазьней адбыліся спартовыя змаганьні сярод моладзі і гульні для дзяцей. Маёўка прайшла удала: была добрая пагода й сабралася шмат людзей. На сьвежым паветры, пад гукі беларускіх мэлёдыяў акардыяёну ды народных песень весела забаўляліся да позьняга вечара.

## ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ Ў АДЭЛЯЙДЗЕ — АЎСТРАЛІЯ

### СЬВЯТА ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Сёлета ўгодкі Акту 25-га Сакавіка ў Парафіі Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла ў Адэляйдзе былі сьвяткаваныя вельмі ўрачыста. Да гэтага спрычыніўся прыезд вернікаў з Парафіі БАПЦарквы ў Мэльбурне, штату Вікторыя. На запросіны Беларускае грамады ў Адэляйдзе грамадка вернікаў з парафіі ў Мэльбурне, у ліку 18 асоб, начале з Настаяцелем а. Аляксандрам, адалеўшы шлях у 800 км., 27-га сакавіка прыбыла ў Адэляйду. Іх віталі, як браты братоў.

А. Аляксандар прыехаў не адно дзеля самога сьвяткаваньня, але прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі пасьвячэньня памятніка першаму Герарху БАПЦарквы на выгнаньні Уладыку Сяргею. Памятнік быў пасьвячаны ў сыботу 27- 3. 1976 г. Пасьвячалі — а. Аляксандар, а. Георг з сьвятарамі Грэцкае Праваслаўнае Царквы, у прысутнасьці вернікаў Беларусаў і Грэкаў.

У нядзелю 28-га сакавіка царква запоўнілася вернікамі з Адэляйды і з Мэльбурну. Сьв. Літургію, Вынас Крыжа і Малебен правілі а. Георг і а. Аляксандар. Па заканчэньні Малебну было выглашана многалецьце Мітрапаліту Андрэю, Архіепіскапу Мікалаю, настаяцелям а. Георгу і а. Аляксандру і ўсім прысутным вернікам. Служба закончылася прапяяньнем хорам царкоўнага гімну „Магутны Божа". Хорам кіраваў бр. Бурнос.

Старшыня Парафіяльнае Рады Станкевіч адчыніў акадэмію і павіншаваў усіх прысутных з Нацыянальным Сьвятам — з Днём 25-га Сакавіка — і прачытаў рэферат на тэму дня. Айцец Георг пасьвяціў ежу. Віншуючы ўсіх прысутных з Днём Нацыянальнага Сьвята і жадаючы добрых





**У часе Малебну ў Царкве ў Адэляйдзе: а. Георг і а. Аляксандар — з правага боку.**

посьпехаў у далейшай працы Парафіі, а. Георг зазначыў, што ён з паходжаньня сэрб, але ўжо дастаткова зьбеларусіўся. Віншаваў таксама і а. Аляксандар і пажадаў плённай працы братняй Парафіі.

### Вянчаньне маладых



8-га травеня 1976 г. у Беларускай Царкве ў Адэляйдзе а. Георг павянчаў маладую пару — Анатоля Машэя, беларуса, з Хрысьціанай Бар, ужо тубыльчай аўстралійкай. Вянчаньне выконвалася ў суправодзе хору пад кіраўніцтвам рэгента М. Бурноса. Анатоль Машэй закончыў унівэрсытэт. Хрысьціна Бар закончыла настаўніцкі калэдж і працуе настаўніцай у сярэдняй школе.

Пасьля шлюбу маладая пара і ўсе госьці прыбылі ў залю, дзе бацькі благаславілі маладых з хлебам і сольлю. Айцец Георг пасьвяціў ежу, і пачаўся ў упрыгожанай залі вясёлы банкет. Госьці шчыра жадалі маладажонам шчасьлівага, радаснага і доўгага жыцьця. З вясельных гасьцей было палова аўстралійцаў, і ўсе яны ўпадабалі Айца Георга, і ім вельмі спадабаўся чын праваслаўнага шлюбу.

### Парафіяльнае сьвята

Храмавое сьвята ў імя Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла сёлета сьвяткавалася ў нядзелю 18-га ліпеня. На Сьвята зыйшлося шмат народу — парафіян і гасьцей. Урачыстую Божую Службу правіў Айцец Георг, у суправодзе хору пад кіравецтвам брата М. Бурноса. У сваім казаньні а. Георг, успамінаючы назоў нашае царквы ў імя Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла, зрабіў прыраўнаньне: як Царква нашая лучыць імёны Пятра і Паўла, так і ўсе мы павінны лучыцца ў веры ў нашай Сьвятыні-Царкве, і ніколі няможна забываць Божага Храму, бо гэта адзіная ўстанова, якая наймацней злучае нас, як на чужыне, так і на радзіме. Пасьля Сьв. Літургіі быў Крыжовы Ход, і адслужаны Малебен да Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла.

У канцы Службы было выгалашана многалецьце Мітрапаліту Андрэю, Архіепіскапу Мікалаю, усім парафіянам і прысутным у царкве.

Пасьля Службы Божай усе перайшлі ў прыцаркоўную залю на супольную трапезу. Старшыня Парафіяльнай Рады бр. Станкевіч віншаваў усіх з Парафіяльным Сьвятам, жадаючы, каб здаровымі спатканца цераз год на царкоўным сьвяце. І выказаў асаблівую падзяку Айцу Георгу за ягоную многалетнюю службу ў Беларускай Сьвятыні, жадаючы яму добрагат здароўя; а ўсе прысутныя ў залі прапялі яму Многае Лета. Айцец Георг, віншуючы парафіян з Прастольным Сьвятам, выказаў сваё задаволеньне з Прыходу, хоць невялікага ў колькасьці, але добрага ў якасьці.

Спакойна і весела парафіяне бавіліся ў сваім уласным куточку, пад беларускія песьні і танцы, з якіх многія награныя на стужкі з нашага беларускага хору ў Адэляйдзе.

### Памінкі памершых

Як вядзецца ад вякоў у нашай праваслаўнай веры, у Праводную, ці Фамінную, нядзелю памінаюцца адыйшоўшыя ўжо суродзічы. Так было ў нядзелю 2-га травеня г. г. Пасьля Сьв. Літургіі й Паніхіды а. Георг з царкоўным хорам пад кіравецтвам бр. Бурноса і вернікі адведалі магілкі, дзе ляжаць астанкі нашых суродзічаў, і над кажнай магілкай узьнесены былі малітвы за супакой душы адыйшоўшага ў вечнасьць.

### У трэйцюю гадавіну сьмерці Айца Васіля Чычэліса

11-га ліпеня г. г. Настаяцель Парафіі Айцец Георг, пасьля Сьв. Літургіі, адслужыў Паніхіду па былым Настаяцелю Петра-Паўлаўскай Парафіі Айцу Васілю Чычэлісу. Усе вернікі, якія былі на Літургіі, прысутнічалі і на Паніхідзе. Па заканчэньні Паніхіды Айцец Георг, царкоўны хор і многія вернікі наведалі магілу, дзе паложаны на вечны супачынак Сьв. Памяці А. Васіль Чычэліс. Усіх, хто наведаў магілу ўдовая Матушка Чычэліс запрасіла на памінальны абед, які прыгатавала ў сябе дома.

### З дзейнасьці Парафіяльнае Рады

Парафіяльная Рада працуе дбала і рупна. Да гэтага часу Парафія здолела ўздабыцца на ўласныя будынкі: царкоўны і прыцаркоўную залю.

20-га чэрвеня г. г. быў скліканы адмысловы сход, на якім разглядалася толькі адно пытаньне: заліць цэмэнтам пляц пры Царкве і залі паводля пляну, які падаў а. Георг. Бальшынёй галасоў была прынятая пастанова, і незабавам быў наняты падрадчык, які заліў плошчу ў 165 кв. мэтраў. Цяпер парафіяне могуць сьмела пераходзіць з залі ў Царкву ці з Царквы ў залю, не баючыся наносіць за нагамі пяску і сьмяцьця ў Царкву ці ў залю.

7-га жніўня быў наладжаны вялікі баль у польскай залі імя Каперніка. Заля была запоўненая, як сваімі сябрамі, так і запрошанымі гасьцямі. Грала добрая аркестра. Між гасьцей панаваў прыемны й вясёлы настрой. Як паводзіцца ў нас, нашы шчодрыя Беларусы ахвяравалі падарункі на лятарэю, якая прайходзіла вельмі бойка. Старшыня Парафіяльнае Рады Станкевіч шчыра дзякаваў усім дарагім гасьцям, якія прыходзяць на нашую забаву і гэтым падтрымоўваюць нас матарыяльна.

На заканчэньне аркестра заграла Беларускі гімн. Але публіка яшчэ доўгі час забаўлялася і не пакідала залі. Увесь прыбытак ад балю ідзе ў царкоўную касу.

### ПЯЦІЛЕЦЬЦЕ СЬВЯТАРСКАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ А. ЯНА ПЯКАРСКАГА

Новазарганізаваная Парафія БАПЦарквы ў Вульвэргамтоне, у Англіі, сёлета ўрачыста адзначыла пяцілецьце сьвятарскае дзейнасьці свайго Настаяцеля Айца Яна. Божую Службу ў гэты дзень служылі — а. Ян Абабурка і а. Ян Пякарскі, пры вялікім зборы людзей, якія зьехаліся амаль ня з усіх беларускіх асяродкаў у Англіі: з Манчэстэру, Брадфорду, Лёндану, Кэмбрыджу, Бірмінгаму, ды з іншых мясьцовасьцяў.



**А. Ян Пякарскі ў сяродку з крыжам.**

На супольным абедзе, які зарганізаваў у чэсьць юбілянта сп. А. Мрочка, выступалі з прамовамі прадстаўнікі ад парафіяў і беларускіх арганізацыяў у Англіі, і было прачытана шмат пісьмовых прывітаньняў, як ад Беларусаў, так і ад іншанацыянальных сьвятароў, з якімі а. Ян супрацоўнічае.

У нядзелю першага жнівеня, на запросіны а. Марка з расейскае Царквы, а. Ян Пякарскі прыняў удзел у парафіяльным сьвяткаваньні Парафіі Сьв. Сэрафіма ў Вальсінгаме. Сьвятую Літургію служылі а. Ян і а. Марк, а пазьней далучыўся яшчэ адзін сьвятар з Лёндану Ян Сышчанка.

18-га верасьня а. Ян Пякарскі прымаў удзел у адкрыцьці помніку ў Лёндане, які пастаўлены ў памяць памардаваных польскіх афіцэраў у Катыні, між якімі загінулі і беларускія афіцэры, якія былі змабілізаваныя ў польскую армію.

**АХВЯРЫ НА КАНСЫСТОРЫЮ БАПЦ — 1976 ГОД (у далярах)**

**Парафія ў Брукліне:** Мікалай Гарошка — 100.00 дал.; Др. Уладзімір Набагез — 100.00; В. Курылла — 100.00; Др. Расьціслаў Гарошка — 50.00; Др. Вітаўт Тумаш — 50.00; Зіна Станкевіч — 50.00; Прат. Васіль Кендыш — 25.00; Францісь Бартуль — 25.00; Др. Алла Романо — 20.00; Кастусь Верабей — 20.00; Віталі Кажан — 15.00. Па 10 дал.: Антаніна Махноўская, Міхаіл Верабей, Аркадзь Ліхач, Ольга Яськевіч. Аляксандар Міцкевіч — 5.00. Усяго — 600.00 дал.

**Парафія ў Гайлэнд Парку, Нью-Дж.:** Васіль Русак — 50.00; а. Аляксандар Яноўскі — 40.00; Васіль Стома — 30.00; Па 20 дал.: Уладз. Харавец, Мікалай Войтэнка, Марыя Войтэнка, Іван Сокал, Віктар Дубяга, Янка Азарка, Алег Дубяга. Па 10.00 дал.: Аляксей Балкоўскі, Язэп Кузьменка, Леў Стагановіч, Геннадзі Дубяга, Ал-дра Даніловіч, Юрка Стагановіч, Пётра Кажура, Янка Місюль, Вера Кабушка. Па 5.00 дал.: Аляксандар Стагановіч, Ірэна Брэндар, Міх. Каранеўскі, Галіна Гэльвіг. Усяго — 370.00.

**Парафія ў Кліўлэндзе:** Мікола Ягаўдзік — 60.00; Кастусь Калоша — 55.00; Сяргей Лукіян — 50.00; Аўген Кабяка — 20.00; Сяргей Карніловіч — 15.00. Па 10 дал.: Клаўдыя Каляда, Антон Шастак, Іван Каваленка, Юрка Каляда. Віктар Сьпічонак — 5.00; Джын Скобельын — 2.00. Усяго — 247.00.

**Парафія ў Дэтройце:** Янка Бруцкі — 50.00ь Др. Язэп Сажыч — 25.00. Усяго — 75.00.

**Канада:** Др. Раіса Жук-Грышкевіч — 50.00; В. Прыстаўка — 30.00; Па 20.00 дал.: К. Каранеўскі, М. Будзька, М. Бан, Ф. Карыба, Л. Наркевіч, Д. Курыловіч, Г. Гардзейчык, М. Масьлякоў, І. Боўшар. Ф. Раховіч — 15.00. Па 10.00 дал.: Е. Юрлевіч, К. Ткачонка, М. Коробец, В. Гуцько, М. Такушэвіч, Ян Бурдзь, М. Анісімовіч, Сяргей Мацукевіч. Па 5.00 дал.: Г. Голуб, І. Мятла. Усяго — 365.00.

**Мэльбурн — Аўстралія:** Па 10.00 амэрык. даляраў: Прат. Аляксандар Кулакоўскі, Ул. А. Шчэрба, Еўдакія Шэўчук. Па 5.00 дал.: Л. Мілаград, Мікалай Нікан, М. Барсток. М. Субоч — 3.00; Е. Ясіновіч — 2.00. Усяго 50.

**З розных мясцовасьцяў:** Ліда Білоус — 100.00; Мікалай Грэбень — 30.00; Леанід Галяк — 25.00; Па 20 даляраў: Барыс Русак, Юрка Корчык, Леанід Вініцкі, Марыя Паланевіч. Праф. Леў Акіншэвіч — 15.00. Па 10.00 дал.: Сьцяпан Кісель, Сярг. Гутырчык, А. Корбут, Аляксандар Непеін, А. Койка, Н. Нагорны, Др. М. Смаршчок, Ніканор Лапушынскі, Павел Брушкевіч, Пратадыяк. Ул. Кірык, Пётра Орса, Мікодым Жызьнеўскі, Антон Шукелойць. Па 5 дал.: А. Савіцкі, Ян Канарчук, Мікола Кунцэвіч, А. Субота, П. Драздоўскі, Др. Кацярына Лашчук, Др. Аляксандар Багдановіч, Марыя Шавейка, Янка Крэсла, Наста Старасельская. Усяго — 430.00.

**Лёндан — Англія:** Па 5 англ. фунтаў: М. Бурдзь, П. Пухоўскі, Л. Пячонка, Н. Ласоўскі, А. Лашук, Я. Міхалюк. М. Чаеўскі — 3 англ. ф. Па 2 англ. ф. — М. Чаеўскі, П. Навара. Усяго 37 англ. фунтаў — 56 д. 84ц.

**Сыднэй — Аўстралія:** Па 10 аўстр. дал.: К. Сіткоўскі, А. Васіленя, Я. Тавенчык, В. Плахоцкі, А. Смаль, Н. Лужынская, А. Качан, К. Хаванскі, Ольга Нарушэвіч, Аўгеня Каранеўская, В. Савашэнка, Е. Кулакоўскі, С. Уласевіч, М. К., Н. Ярашук, А. Юрэвіч, А. Волк-Левановіч. Па 5 дал.: А. Дуско, А. Калпяка, А. Булаўскі, С. Куцкевіч, М. Бакуновіч, Г. Леановіч, Е. Косяк, Севстэнка, О. Тамашэўскі. І. Січко — 4.00; Па 2 даляры: Т. Гарасімовіч, В. Марчанка, А. Курыловіч,В. Юрэвіч. Разам: Аўстрал. дал. 227.00, Амэрык. дал. 281.00.





**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ**  **ІВАН СКОБЕЛІН**



Уночы з першага на другога сьнежня 1976 году раптоўна памёр верны і добры парафіянін Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлэндзе, сьв. пам. Іван Скобелін. Нарадзіўся пакойны ў станіцы Міхайлаўская на Казакіі. У часе рэвалюцыі браў актыўны ўдзел у змаганьні з бальшавікамі. На эміграцыі доўгі час пражыў у Францыі, а потым перасяліўся ў Амэрыку. Быў глыбока-рэлігійным чалавекам, ахвярным, справядлівым і разсудным. Пахаваны на магільніку „Рывэрсайд Цэмэтэры" у Кліўлэндзе дня 4-га сьнежня 1976 году. Чын пахавінаў выканаў Мітрапаліт Андрэй

**СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ**  **ВІКТАР ГОЙШЫК**

6-га кастрычніка 1976 году ў Кэмбрыджы пасьля доўгай і цяжкой хваробы памёр ВІКТАР ГОЙШЫК.

Адыйшоў ён у вечнасьць яшчэ ў маладым веку, меўшы ўсяго 54 гады. Чын пахавінаў выканаў а. Ян Пякарскі 13 кастрычніка 1976 г., пры ўдзеле шматлікіх сяброў і знаёмых нябожчыка. Пакойны асіраціў двух сыноў Пятра і Андрэя. Паходзіў Віктар Гойшык з Івацэвіцкага раёну Берасьцейскае акругі. Апошняя ягоная просьба была — паведаміць пра скон матку і братоў на радзіме, што і выканаў Настаяцель Парафіі. Пасьля пахарону адбыўся памінальны абед, на якім прысутныя з жалем ўспаміналі жыцьцё і дзейнасьць адыйшоўшага ў вечнасьць. Віктар быў шчырым і сьведамым беларусам. Належаў да БАПЦарквы ад пачатку яе аднаўленьня.

Няхай лёгкай будзе яму Ангельская зямелька.

**********************************************

Усім ахвярадаўцам Кансысторыя складае шчырую падзяку і спадзяецца, што і іншыя нашыя суродзічы, за прыкладам вымененых, адгукнуцца на наш заклік і перашлюць сваю ласкавую ахвяру.

**За Кансысторыю БАПЦ**

**Прат. Васіль Кендыш**

**ПАПРАЎКА**

У сьпісе ахвяр на Кансысторыю БАПЦаркві і на рэмонт Царквы Сьв. Тройцы ў Дораты — у Н-ры 44-ым „Голасу Царквы" — з недагляду ня было ўпісана прозьвішча — Зіна Станкевіч, якая ахвяравала на Кансысторыю за 1975 год — 50 даляраў і на рэмонт царквы ў Дораты — 70 дал. Дзякуючы за ахвяру, за недагляд вельмі перапрашаем.

**Прат. Васіль Кендыш**

## ПАРАФІЯ БАПЦ У МЭЛЬБУРНЕ, АЎСТРАЛІЯ

Сёлета сьвяткаваньне Акту 25-га Сакавіка мэльбурнская парафія абыходзіла 4-га красавіка. Пасьля Сьв. Літургіі быў адслужаны Малебен. Настаяцель а. Аляксандар сказаў прынагодную, глыбокага зьместу пропаведзь — значэньне падзеі прагалошаньня Акту 25-га Сакавіка для нас у сучаснасьці і для наступных пакаленьняў. З прыемнасьцю трэба адзначыць, што царкоўны будынак падчас урачыстага Малебну быў упрыгожаны Бел-Чырвона-Белым сьцягам, жанчын і моладзі ў нацыянальных вопратках ды не малым лікам букетаў жывых красак. Тыдзень раней, (28-га сакавіка) Настаяцель а. Аляксандар і частка вернікаў абыходзілі сьвята супольна з суродзічамі ў Адэляйдзе. Тут-жа й быў пасьвячаны новапабудаваны нагробны памятнік сьв. пам. Архіепіскапа Сергія.

---

У Фаміную нядзельку (2 травеня), за прыкладам мінулых год, пасьля Сьв. Літургіі й Паніхіды а. Аляксандар і лічная колькасьць вернікаў адведалі супачылых суродзічаў. Наведваньне пакліканых Госпадам у вечнасьць закончылася на беларускім магільніку пасьвячэньнем новапастаўленага памятніка сьв. пам. Зіновія.

---

9 ліпеня сёлета Настаяцель Парафіі а. Аляксандар ахрысьціў Элізабету-Шарнэ, дачку Яна і Шэрыл Карп, вернікаў парафіі ў Мэльбурне, а 31-га кастрычніка ахрысьціў Марыю, дачку Барыса і Элізабеты Лагун. Няхай Госпад абдорыць Марыю і Элізабету-Шарнэ добрым здароўем, каб добра расьлі на славу Богу, радасьць-пацеху бацьком і людзям добрае волі. Дай Божа!

---

8-га верасьня, карыстаючы са школьных канікулаў, вучні нядзельнае школы пры Парафіі БАПЦ у Мэльбурне даканалі паездку на сьнег. Ведама, у Аўстраліі сьнег — гэта ня штодзённая навіна, а таму школьная моладзь гэтае здарэньне высока цэніць. Добра пацешыліся з гульняў у сьнежкі. Некаторыя навет прабавалі прывезьці грудкі сьнегу дамоў — паказаць тым, якія не змаглі наведаць мясьцін са сьнегам. Надарэмна. Калі ад'ехалі ад гор, сьнег растаў-зьнік, нібы вясною на Беларусі.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

25-га ліпеня, з нагоды „Тыдня Паняволеных Народаў", мэльбурнская Парафія БАПЦ начале з Настаяцелем прат. Аляксандрам прыняла ўдзел у супольнай Багаслужбе, што адбылася ў катэдры сьв. Патрыка. Катэдра была перапоўненая людзьмі розных нацыянальнасьцяў, у нацыянальных вопратках ды з дзяржаўнымі сьцягамі, між каторых займаў пачэснае месца беларускі Бел-Чырвона-Белы сьцяг. Пасярод лічнага духавенства, удзельнікаў у Малебне, прысутнічаў і прат. а. Аляксандар; ён-жа і прачытаў малітву за Беларускі Народ, зразумела, у роднай мове, што ўсьцешыла прысутных суродзічаў. Напрыканцы Малебну духавенства: Лютаранскае, Англіканскае, Праваслаўнае і Каталіцкае благаслаўлялі прысутных. Ад праваслаўнага духавенства благаслаўляў прат. а. Аляксандар.

Малітва падчас Малебну:

Усемагутны Божа, Ойча наш Нябесны! Мы дзеці Твае, схіліўшы галовы прад Табою, просім помачы Твае; Пашлі Тваю Боскую Ласку і апеку народу Беларускаму. Абдары Сьвятым Тваім Духам, мудрасьцю і непахіснасьцю тых, хто з вераю ў магутнасьць Тваю бароніць Бацькаўшчыну і народ наш. Скараці час цярпеньня ўсіх падняволеных народаў. Усіх аддаўшых жыцьцё сваё за веру і праўду ўпакой у Валадарстве Тваім.

Няхай цудоўнае імя Твае, Божа і Спасе наш, пануе і зьзяе ў сэрцах нашых і будзе благаслаўленае цяпер і навекі. Амін.